Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 38 (4889) 23 верасня 2016 г.



# Адчуць цябе, Палессе!



Фота БелТА.

*Падчас фестывалю этнакультурных традыцый «Кліч Палесся» ў 2014 годзе.*

Палессе, напэўна, адзін з самых актыўных рэгіёнаў, дзе людзі клапоцяцца пра захаванне непаўторнай мовы, традыцый. Яны любяць родны край і імкнуцца як мага больш апяваць яго прыцягальнасць. Гэта заўважна практычна па ўсім: па адносінах адзін да аднаго, па ўсмешках, па неверагодным пачуцці гумару. Палеская зямля — унікальны край, у скарбонцы якога, на шчасце, захаваліся старажытныя абрады, фальклор, традыцыйныя святы…

24 верасня ў чацвёрты раз аграгарадок Ляскавічы, што ў Гомельскай вобласці, прыме фестываль этнакультурных традыцый «Кліч Палесся», які за гады існавання стаў брэндам Гомельшчыны. Яго канцэпцыя ўнікальная: дазваляе паглыбіцца не толькі ў этнакультурныя традыцыі беларусаў у цэлым, але і дэтальна разабрацца ў самабытнай культуры палешукоў, убачыць іх адносіны да зямлі і ўласнага быту.

Сёлета фестываль працягвае падтрымліваць статус міжнароднага (упершыню атрымаў яго ў 2014 годзе). У Ляскавічы прыедуць госці з Расіі, Украіны, Польшчы, Малдовы, Літвы. Палешукі будуць здзіўляць дужа смачнай кухняй, шматлікімі выстаўкамі пра гісторыю Палесся, конкурсамі рамёстваў і імправізаванай палескай вёскай з народнымі святамі і абрадамі.

Паколькі фестываль ладзіцца не першы год, арганізатары ведаюць, чым захапіць гасцей, і загадзя прапаноўваюць настройвацца на музычна-танцавальную праграму, дзе будуць гучаць беларускія і народныя песні іншых краін. Традыцыйна ў межах фестывалю адбудзецца праграма аўтэнтычных калектываў «Палескі карагод», дзе прагучаць музычныя творы з сапраўдным палескім каларытам, пра якія нават складаюць легенды.

Акрамя традыцыйных мерапрыемстваў сёлета ў межах фестывалю ўпершыню пройдзе конкурс майстроў «Перазвон талентаў», удзел у якім возьмуць дзеці, зацікаўленыя ідэяй захавання самабытнай культуры праз вывучэнне гісторыі і бесперапынную перадачу традыцый. Таксама ўпершыню будзе прадстаўлена пляцоўка «Ток глушца», якая прадугледжвае актыўны адпачынак. Тут можна будзе страляць з лука ці рагатак і адчуць сябе сапраўдным палескім паляўнічым.

Фестываль этнакультурных традыцый «Кліч Палесся» вельмі каштоўны для беларусаў. Ён збірае людзей, якія, магчыма, і ведаюць пра асаблівасць палескага рэгіёна, і бачылі гэтыя чароўныя мясціны раней. Але ж з'язджаюцца, каб апынуцца ў атмасферы сапраўднай беларускай культуры, якая неаднойчы апявалася пісьменнікамі і натхняла мастакоў. У Ляскавічы людзей прыводзіць не выпадак, а сапраўдны кліч любові да неверагодна прыгожай зямлі.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку Расіі Ганну Нятрэбка з днём нараджэння. «Прыхільнікі класічнай музыкі з розных краін свету пакораны Вашым унікальным голасам, тонкім артыстызмам і талентам», — гаворыцца ў віншаванні. «На беларускай зямлі Вас добра ведаюць і цэняць як яркую выканаўцу, чыя творчасць садзейнічае сцвярджэнню ідэалаў духоўнасці і прыгажосці», — падкрэсліў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч узяла ўдзел у Форуме міністраў інфармацыі еўразійскіх краін, які ладзіўся ў межах пятай міжнароднай выстаўкі ЭКСПА «Кітай — Еўразія» ў кітайскім горадзе Урумчы. Падчас пленарнага пасяджэння міністр выступіла з дакладам «Сумеснае абмеркаванне, стварэнне і выкарыстанне — Шаўковы шлях: магчымасці і перспектывы». Лілія Ананіч азнаёміла ўдзельнікаў форуму са станам і перспектывамі развіцця супрацоўніцтва Беларусі і Кітая ў сферы друку і інфармацыі. У форуме таксама ўзяў удзел Алесь Карлюкевіч, дырэктар — галоўны рэдактар РВУ «Выдавецкі дом "Звязда"», дзе надаецца шмат увагі развіццю беларуска-кітайскага ўзаемадзеяння ў інфармацыйна-выдавецкай сферы.

✔ З 20 па 24 верасня ў Мінску праходзіць тыдзень кітайскага кіно ў Беларусі. У сталічным кінатэатры «Цэнтральны» гледачам прапануецца пяць фільмаў кітайскіх рэжысёраў. Паводле першага намесніка міністра культуры Беларусі Ірыны Дрыга, тыдзень кітайскага кіно ў Беларусі паслужыць умацаванню стасункаў у сферы культуры. Як адзначылі ў Міністэрстве культуры Беларусі, сумесна з Міністэрствам культуры Кітая распрацаваны план супрацоўніцтва да 2020 года.

✔ У Міністэрстве замежных спраў Літвы адкрылася выстаўка «Вішнявецкія — забыты каралеўскі род». У экспазіцыі прадстаўлены партрэты князёў Вішнявецкіх, сабраныя ў межах праекта «Украіна, Беларусь, Літва: памяць пра традыцыі і скарбніца спадчыны».

✔ Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад-2016» адкрые карціна «Пецярбург. Толькі па любві», якая будзе паказана ў Мінску 4 лістапада ў кінатэатры «Масква». Гэта сем гісторый пра спатканні з горадам белых начэй. Усе гісторыі зняты сямю расійскімі рэжысёрамі-жанчынамі. Сусветная прэм'ера кінастужкі адбылася на 27-м фестывалі «Кінатаўр».

✔ У будучым годзе беларускія рэстаўратары пройдуць стажыроўку ў Эрмітажы (Расія). Паводле генеральнага дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Уладзіміра Пракапцова, падпісана пагадненне паміж Нацыянальным мастацкім музеем і Дзяржаўным Эрмітажам, якое прадугледжвае не толькі абмен навуковымі выданнямі, але і стажыроўкі рэстаўратараў. Генеральны дырэктар нагадаў, што на базе Нацыянальнага мастацкага музея плануецца стварэнне рэспубліканскага цэнтра рэстаўрацыі.

✔ Учора ў Гродзенскай абласной навуковай бібліятэцы імя Я. Ф. Карскага адбыліся XI Гродзенскія навуковыя чытанні, прысвечаныя 125-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Прагучалі даклады айчынных навукоўцаў, краязнаўцаў, супрацоўнікаў музеяў, бібліятэк і архіваў. Абмяркоўвалі ўплыў асобы творцы на літаратурнае і грамадскае жыццё Гродзеншчыны і Беларусі ўвогуле.

✔ Новы, 91-ы, сезон абяцае гледачам Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа шмат цікавага. Апрача іншага, каласаўцы плануюць прапанаваць жыхарам Віцебска мастацкія чытанні. Гэта форма працы ўжо набыла папулярнасць у беларускай сталіцы, для Віцебска — своеасаблівы эксперымент.

# Асаблівы статус

## маюць больш за 100 аб'ектаў нематэрыяльнай спадчыны

**Захаванню гэтага віду культурнай спадчыны на Беларусі надаецца вялікая ўвага, бо гэта нашыя старажытныя звычаі, веды і навыкі, звязаныя з імі рэчы і нават артэфакты. Нагадаем, што Беларусь — у ліку першых краін, што ў 2003 годзе падпісалі Канвенцыю ЮНЕСКА аб захаванні нематэрыяльнай культурнай спадчыны.**

Ужо больш за дзесяць гадоў ідзе пільная работа па выяўленні, ідэнтыфікацыі ды інвентарызацыі гэтай спадчыны. Такім чынам, статус нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасці сёння маюць 111 аб'ектаў. У рэгіёнах краіны працуюць камітэты па іх захаванні, куды ўваходзяць толькі людзі дасведчаныя: прадстаўнікі мясцовых самакіраванняў, эксперты, супрацоўнікі абласных і раённых метадычных цэнтраў, дамоў рамёстваў, музеяў.

А носьбітамі нематэрыяльнай культурнай спадчыны лічацца прадстаўнікі мясцовых супольнасцей. Менавіта яны складаюць спісы яе элементаў, без іх згоды зрабіць гэта немагчыма. Пры кожным рэгіёне ёсць яшчэ і куратарскія цэнтры, якія таксама займаюцца маніторынгам аб'ектаў спадчыны, але пазіцыю носьбіта ім трэба абавязкова высвятліць. Часта сельскія жыхары не вельмі хочуць, каб нейкі сакральны, старажытны элемент быў папулярызаваны. Кожны аб'ект суправаджае вялікі пакет дакументаў, ілюстрацый, відэа. Гэтыя матэрыялы ацэньваюцца вучонымі, потым трапляюць у Беларускую рэспубліканскую навукова-метадычную раду по пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры, якая і вырашае, даць згоду на гэтую прапанову ці не.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Да вяршыняў танца

## Беларускія артысты балета сталі лаўрэатамі міжнароднага конкурсу ў Астане

Вядучыя майстры сцэны балетнай трупы Вялікага тэатра Беларусі сталі лаўрэатамі III Міжнароднага конкурсу артыстаў балета, які адбыўся ў Астане з 10 па 17 верасня. Канстанцін Геронік і Аляксандра Чыжык сталі лаўрэатамі трэціх прэмій. Канстанцін таксама заваяваў прыз «Астана-Опера».

У конкурсе ўзялі ўдзел 29 танцораў з сямі краін, у тым ліку з Расіі, Японіі і Украіны. Удзельнікі паказалі сваё майстэрства ў класічнай і сучаснай харэаграфіі. Гран-пры і першае месца атрымалі танцоры з Казахстана.

Аляксандра Чыжык і Канстанцін Геронік працуюць у трупе тэатра з 2010 года. Аляксандра выконвае галоўныя партыі ў балетах «Лебядзінае возера», «Эсмеральда» і «Шчаўкунок, або Яшчэ адна калядная гісторыя...». У Канстанціна Героніка шмат роляў, у тым ліку вядучыя партыі ў «Чыпаліне», «Прыгажуні, якая спіць» і «Шчаўкунку». Абодва танцоры сталі лаўрэатамі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

**Юлія РУДЗЕНКА**

# Погляд на гераічнае

## ў фотапраекце да 45-годдзя адкрыцця мемарыяльнага комплексу «Брэсцкая крэпасць-герой»



Узяць удзел у ім запрашалі ўсіх жыхароў і гасцей горада Брэста.

Крэпасць, якую пачалі будаваць у XIX стагоддзі, выканала свае функцыі ў сярэдзіне XX. Але гэты аб'ект гераічным зрабілі людзі. Больш за месяц крэпасць трымала абарону ў аблозе. Памяць пра тыя падзеі патрэбна было захаваць: кіраўніцтва БССР вырашыла паставіць на месцы крэпасці помнік абаронцам і перазахаваць іх астанкі пад мемарыяльныя пліты.

Адкрыццё мемарыяльнага комплексу адбылося 25 верасня 1971 года. Над яго стварэннем працаваў вялікі творчы калектыў. З'явіўся шэраг адметнасцей. Архітэктурна-мастацкі ансамбль пачынаецца з галоўнага ўвахода ў выглядзе пяціканцовай зоркі, у цэнтры ансамбля — пагрудная скульптура воіна «Мужнасць» вышынёй больш за 30 метраў. Штык-абеліск, скульптурная кампазіцыя «Смага», мемарыяльныя пліты з пахаваннямі загінуўшых… Ёсць што паглядзець і адлюстраваць.

**Юлія РУДЗЕНКА**

## У пісьменніцкім асяродку

# Паэзія, і музыка, і песня для душы

Пад назвай «З любоўю, удзячнасцю, верай» адкрылася ў дзіцячай бібліятэцы № 5 г. Мінска выстаўка, прысвечаная юбілейнаму дню нараджэння і 40-годдзю творчай дзейнасці пісьменніка, старшыні сталічнага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхася Пазнякова.

На ўрачыстым адкрыцці фотавыстаўкі прысутнічалі калегі, сябры юбіляра, а таксама супрацоўнікі бібліятэк і прыхільнікі яго самабытнага таленту. Перад прысутнымі выступілі аўтар выстаўкі — фотамастак Міхаіл Крыжаноўскі, паэты і перакладчыкі вершаў М. Пазнякова Анатоль Аўруцін, Лізавета Палеес, Хізры Асадулаеў, пісьменнікі Уладзімір Мазго, Іван Юркін. Вершы прагучалі з вуснаў самога віноўніка ўрачыстасці і артысткі эстрады Вольгі Багушыньскай. Добрыя словы пра юбіляра, выстаўку і супрацоўніцтва з МГА СПБ выказала дырэктар Цэнтралізаванай сістэмы дзіцячых бібліятэк Таццяна Швед. А затым гучалі песні на вершы Міхася Паўлавіча ў выкананні артыста і кампазітара Сяргея Краўца ды яго жонкі — спявачкі Іны Кравец. Супрацоўнікі кніжніцы падрыхтавалі выстаўку кніг Міхася Пазнякова.

Азнаёміцца з фотавыстаўкай можна да канца кастрычніка.

Сёлета ў сталічных паэтаў, сяброў Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, з'явіліся дзве новыя пляцоўкі для выступленняў. Гэта нават не пляцоўкі, а паэтычныя дворыкі: адзін — у Верхнім горадзе, а другі — каля Мінскай цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя Янкі Купалы, дзе і сабраліся творцы падчас імпрэзы, прымеркаванай да Дня бібліятэк.

Маргарыта Латышкевіч, Ганна Мартынчык, Кацярына Массэ, Людміла Клачко… Многія, нават маладыя, літаратурныя імёны ўжо добра знаёмыя чытачу. Але гэтым разам паэтычна-музычная палітра ззяла асабліва ярка — ці то сонечнае надвор'е спрыяла, ці то святочны настрой.

Варажба на вершах — менавіта такую форму інтэрактыўнай гульні прапанавала публіцы Маргарыта Латышкевіч. У яе паэзіі — сірэны, якія спяваюць джаз, коткі і драконы, музыка дажджу… Яна Явіч паўстала перад гледачом як двухмоўная паэтэса, прадставіўшы вершы па-руску і па-беларуску, у якіх то «неба сцякае слязамі», то горад дасылае «тэлеграмы — прамымі дажджамі»… А Таццяна Жылінская ўвасобіла сапраўдны міні-слэм, эмацыянальны, энергічны, ды яшчэ і пад акампанемент гітары!

На дзіва вытанчаную і сур'ёзную лірыку, нягледзячы на малады ўзрост, прадставілі Ганна Мартынчык і Кацярына Массэ. Але калі ў творчасці першай ключавы — вобраз маці, то ў другой — рацыянальны пачатак, вобраз Мовы, Слова, якое зноў і зноў будзе гучаць і ў кніжніцах, і на паэтычных дворыках.

Музыкант, кампазітар, мастацкі кіраўнік ансамбля народнай песні і музыкі «Менскі гармонік» Іван Раманчук піша яшчэ і вершы. Падчас канцэрта ў вялікай зале сталічнага Палаца культуры ветэранаў прагучалі яго ранейшыя і новыя песні на словы Петруся Броўкі, Яўгеніі Янішчыц, Кастуся Кірэенкі, Міхася Пазнякова, Івана Карэнды, Ніны Гарагляд, Веры Буланда, а яшчэ — самога кіраўніка ансамбля.

Шчырыя словы ў адрас калектыву выказалі паэты Іван Карэнда і Міхась Пазнякоў — павіншавалі «Менскі гармонік» з пачаткам новага канцэртнага сезона. Дарэчы, калектыў актыўна супрацоўнічае з Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі, часта бярэ ўдзел у яго творчых мерапрыемствах. Старшыню сталічнага аддзялення СПБ Міхася Пазнякова ды Івана Раманчука звязвае даўняе сяброўства, якое дапамагае ствараць цікавыя песні і арганізоўваць разнастайныя паэтычна-музычныя імпрэзы.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

# Аб'яднаныя гісторыяй

Дзякуючы аналагавым здымкам са скарбонкі савецкіх фотамастакоў мы маем памяць пра былыя часы. Кніжна-выставачная прастора «Кніжная шафа» для аматараў якаснай фатаграфіі падрыхтавала выстаўку «Фатографы з СССР». Калекцыя здымкаў экспазіцыі належыць Юрыю Васільеву.

Экспазіцыя арганізавана ў межах Месяца фатаграфіі ў Мінску. Прадстаўлены работы аўтараў Беларусі, Украіны, Эстоніі і Расіі. У кожнага творцы свой стыль і канцэпцыя, але ўсе работы аб'яднаныя агульнай тэмай савецкага часу.

Савецкая эпоха — перыяд, пра які гавораць і добра, і дрэнна. Але амаль усе параўноўваюць яе з сучаснасцю. На фотаздымку «Дарога» Аляксандра Глінскага малыя ідуць са школы з вялікімі партфелямі, пра нешта з захапленнем размаўляюць. Дзесьці ў душы адчуваюцца ноткі настальгіі. Што ў фотаздымку радаснага — дзеці не трымаюць у руках смартфоны, не глядзяць у іх бесперапынна. Яны цікавяцца навакollем і адзін адным. Здымак Анатоля Дудкіна — таксама гісторыя з дзяцінства: унук з дзедам гуляюць у шашкі. Кожны з іх прадумвае наступны крок. І калі ўключыць фантазію, то можна здагадацца, што дзед вучыць малога разважаць.

Выстаўка быццам падзяляецца на два блокі: у першым — тэма дзяцінства, а другі складаецца з партрэтаў прыгожых жанчын. Жанчыны ў капелюшах з шырокімі палямі, у строгіх, крыху ніжэй за калена, сукенках на фотаздымках Віктара Батуры і Валерыя Федарэнкі захаваныя ў вечнасці.



*Валерый Лабко (Мінск), 70-я гады.*

Здымкі выстаўкі «Фатографы з СССР» былі сабраны Юрыем Васільевым за паўстагоддзя. Кожны раз калекцыя папаўнялася за кошт аўтарскіх абменаў альбо фотавернісажаў, дзе творцы, бывала, дарылі свае фотаздымкі. У выніку назбіралася вялікая колькасць фотаматэрыялу, і сёння, па словах уладальніка, набытае адлюстроўвае стан і ўзровень фотамастацтва сямідзясятых гадоў Беларусі, Прыбалтыкі, Украіны і часткова Расіі.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Музыка шукае слухача

Белдзяржфілармонія пачынае новы сезон і актыўна рыхтуецца да 80-годдзя, таму сёлета можна будзе не толькі паслухаць вядомых музыкантаў, але і «дакрануцца» да яркіх падзей і ўбачыць легендарныя пастаноўкі.

Гэтым і не толькі філармонія прыцягвае ўвагу сучаснага слухача — нецярплівага і паспешлівага. Ужо з першай сустрэчы застаецца прыемнае ўражанне: музыка гучыць у філармоніі нават на прэс-канферэнцыях.

Новы сезон, які пачнецца ўжо сёння (23 верасня), адкрые Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр (галоўны дырыжор Аляксандр Анісімаў): выканаюць музыку Пракоф'ева, Шастаковіча і беларускага кампазітара Вячаслава Кузняцова, які свой твор «Радасць з нагоды…» напісаў адмыслова для адкрыцця сезона. Але гэта не адзіны сюрпрыз ад калектываў для аматараў беларускай музыкі, кажа галоўны дырыжор Дзяржаўнага камернага аркестра Яўген Бушкоў:

— Мы вельмі шчаслівыя, што кожны наш канцэрт у гэтым сезоне будзе сапраўднай падзеяй. Я хацеў бы падкрэсліць, што ў гэтым годзе мы з'яўляемся ініцыятарамі супрацоўніцтва ў форме *Composer-in-Residence* і будзем працаваць з маладым беларускім кампазітарам Канстанцінам Яськовым, з якім нам хацелася б стварыць новую беларускую музыку. І кампазітар, і аркестр могуць падзяліцца сваімі ведамі і навыкамі, дапамагчы вярнуць да жыцця і даўнюю беларускую музыку. Такім спосабам мы хочам зрабіць свой унёсак у развіццё сучаснай беларускай музыкі, і я думаю, што гэта вельмі своечасовае рашэнне.

Ансамбль салістаў «Класік-авангард» прапануе падарожнічаць па «Маладой Польшчы». Праграму з такой назвай музыканты выканаюць пад акампанемент выдатнага польскага жывапісу і натхнёнай паэзіі. У верасні «Класік-авангард» адзначыў 25-годдзе. Уладзімір Байдаў, мастацкі кіраўнік ансамбля, кажа, што для музычнага калектыву гэта сапраўдны рэкорд Гінэса, і ўспамінае, як усё нараджалася:

— Наша кар'ера пачыналася з таго, што мы рабілі акцэнт на новай, сучаснай беларускай музыцы. Для таго каб існаваў такі калектыў, патрэбная «падпітка». Мы былі свайго роду лабараторыяй, як і павінна быць, калі жанр звязаны з эксперыментам, чым мы і займаліся. На гэтым грунтуецца праца Інстытута даследаванняў і каардынацыі акустыкі і музыкі ў цэнтры Пампіду ў Францыі, там таксама ёсць такі ансамбль. У нас жанр слізкі, элітарны — ён не можа быць у нейкіх межах, таму хацелася б, каб нашу музыку чулі паўсюль — мы для таго і існуем, каб яе прапагандаваць.

Сёння філармонія спрабуе «дагрукацца» да сэрца свайго слухача рознымі спосабамі: калектывы эксперыментуюць (як «Класік-авангард»), шукаюць супрацоўніцтва (напрыклад, да нас прыехаў амерыканскі саліст Стэфан Прутсман), вяртаюць да жыцця прадстаўленні, якія ўжо сталі легендарнымі (мюзікл «Апокрыф»), запрашаюць фенаменальных артыстаў (у Мінск прыедзе канадскі піяніст Аляксандр Целякоў). Але не забываюцца ў філармоніі знаёміць публіку і з сучаснай беларускай музыкай, адзначае мастацкі кіраўнік Белдзяржфілармоніі Юрый Гільдзюк:

— Сёлета ў камерным аркестры працуе наш малады кампазітар Канстанцін Яськоў, а ў адкрыцці сезона возьме ўдзел Вячаслаў Кузняцоў. Дзмітрый Смольскі, адзін з самых знакамітых кампазітараў краіны, таксама будзе выступаць у нас. На працягу сезона ў розных калектывах мы пільна сочым, каб беларускія кампазітары і айчынны рэпертуар мелі тут свае месцы і творчую ўвагу.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

**Установа адукацыі «Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі» аб'яўляе конкурс на замяшчэнне пасад (да 5 гадоў) прафесарска-выкладчыцкага складу з далейшым заключэннем кантракта ў выпадку выбрання на тэрмін, вызначаны Наймальнікам:**

| | | |
|---|---|---|
| 1 | кафедра баяна і акардэона | — прафесар (2,0 шт. адз.)<br>— загадчык кафедры (1,0 шт. адз.) |
| 2 | кафедра опернай падрыхтоўкі і харэаграфіі | — выкладчык (2,0 шт. адз.) |

**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:**

**27 верасня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Міхасём Пазняковым у дзіцячую бібліятэку № 5 (вул. Русіянава, 48). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**28 верасня** — *у Мінскі гарадскі тэатр паэзіі пры Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16) на творчую імпрэзу паэтэсы Аліны Легастаевай «Вяртаюся дамоў». Пачатак у 16.30.*

**28 верасня** — *на паэтычна-музычную імпрэзу, якая адбудзецца ў Нацыянальным мастацкім музеі (вул. Леніна, 20) у межах Дзён праваслаўнай культуры. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**29 верасня** — *у школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**30 верасня** — *на творчую сустрэчу з паэтам і перакладчыкам Андрэем Цяўлоўскім з удзелам паэтаў у публічную бібліятэку № 20 (вул. Жукоўскага, 9/1). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**30 верасня** — *у літаратурны клуб «Спадчына» пры гімназіі № 35 (вул. Кіжаватава, 70) на творчую сустрэчу з пісьменнікам Навумам Гальпяровічам. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**1 кастрычніка** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Уладзімірам Тулінавым, прысвечаную Дню маці, у Цэнтр тэхнічнай і мастацкай творчасці дзяцей і моладзі Фрунзенскага раёна г. Мінска «Зорка» (вул. Адзінцова, 10). Пачатак у 10.30.*

**З 26 верасня па 2 кастрычніка** — *на фотавыстаўку Міхаіла Крыжаноўскага «З любоўю, удзячнасцю, верай», прысвечаную дзейнасці Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, у дзіцячую бібліятэку № 5 (вул. Русіянава, 48).*

**Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**27 верасня** — *на чарговае пасяджэнне грамадскага дыскусійнага клуба «Словадром» у залу пасяджэнняў Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага (г. Гродна, вул. Замкавая, 20, Новы замак). Тэма дыскусіі вольная. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**28 верасня** — *на ранішнік «Пасвячэнне ў чытачы» з удзелам дзіцячай пісьменніцы Таццяны Сучковай у філіял № 6 Гродзенскай ЦБС (г. Гродна, пр-т Касманаўтаў, 4). Пачатак а 10-й гадзіне.*

**29 верасня** — *на фінальны этап абласнога паэтычнага конкурсу сярод педагогаў «Поэзия — души движенье» з удзелам прадстаўнікоў Гродзенскага гарадскога літаратурнага аб'яднання «Надзея» і Гродзенскага абласнога аддзялення СПБ у Гродзенскі абласны інстытут развіцця адукацыі (г. Гродна, вул. Гагарына, 6). Пачатак у 11.00.*

## Дайджэст

• Эдвард Олбі, адзін з самых значных драматургаў сучаснасці, памёр на 89-м годзе жыцця ў ЗША. П'есы драматурга ставіліся па ўсім свеце. Тры з іх атрымалі Пулітцэраўскую прэмію, астатнія адзначаныя іншымі літаратурнымі ўзнагародамі. Прыкладам, адна з самых знакамітых яго п'ес "Хто баіцца Вірджыніі Вулф?" атрымала тэатральную прэмію «Тоні», якая па значнасці прыраўноўваецца да кінематаграфічнай прэміі «Оскар». Крытыкі адзначаюць у творчасці Эдварда Олбі асаблівае пачуццё гумару з адценнем горычы.

• На Букераўскую прэмію-2016 засталося шэсць прэтэндэнтаў. Цікава, што ў шорт-ліст не патрапіў паўднёваафрыканскі пісьменнік Джон Максвэл Кутзээ, нобелеўскі лаўрэат па літаратуры і двойчы ўладальнік той жа Букераўскай прэміі. Яго раман пра дзяцінства Ісуса гэтым разам не ўразіў журы. У лік «паўфіналістаў» патрапілі літаратары з ЗША, Вялікабрытаніі і Канады. Імя пераможцы стане вядомае 25 кастрычніка. Прэмія складае на сёння 50 тысяч стэрлінгаў.

• Вядомы пісьменнік Мішэль Уэльбек прайграў судовую справу папулярнай газеце *Le Monde*. У суд з прэтэнзіямі да газеты звярнуўся сам Уэльбек, абвінаваціўшы яе ў парушэнні аўтарскіх правоў. Перадгісторыя гэтай справы налічвае 15 гадоў. Тады пісьменнік судзіўся з іншым выданнем, якое праінфармавала чытачоў аб тым, што, характарызуючы іслам як «дурную рэлігію», літаратар быў нападпітку. Падчас працэсу Уэльбек перадаў свайму абаронцу цыдулку, у якой пабажыўся, што больш не будзе размаўляць з прэсай. Адвакат жа перадаў цыдулку газеце *Le Monde*, якая апублікавала пасланне. Пры гэтым варта дадаць, што пасля працэсу пісьменнік ахвотна згаджаўся на інтэрв'ю. У выніку Уэльбек абвінаваціў газету ў парушэнні аўтарскіх правоў, бо цыдулка была напісаная яго пісьменніцкім пяром. На што суд адказаў: яе нельга лічыць поўным творам. Цяпер Уэльбэку давядзецца выплаціць судовыя выдаткі па працэсе, якія склалі каля чатырох тысяч еўра.

• Кніжны партал «Лібрусек» закрываецца ў сувязі з рашэннем Маскоўскага суда. Партал быў адным з самых папулярных на тэрыторыі Расіі і не толькі: за месяц сайт наведвалі 9,4 млн чалавек. Сайт быў абвінавачаны выдавецтвам АСТ у парушэнні аўтарскіх правоў. Акрамя таго, гэты год быў вырашальным у лёсе партала *Flibusta*, а таксама для торэнтаўтрэкераў *RuTracker* і *Pleer.com*. На сёння сайт заблакіраваны на пастаяннай аснове, аднак прадстаўнікі АСТ чакаюць, што кіраўнікі партала паспрабуюць стварыць люстэрка сайта: «Мы да гэтага падрыхтаваліся, але пакуль не скажам, як менавіта».

• Іранская газета *Tehran Times* паведамляе, што паміж прадстаўнікамі Ірана і Расійскай Федэрацыі заключанае пагадненне на адкрыццё літаратурнага цэнтра для творчых прадстаўнікоў абедзвюх нацый: для пісьменнікаў, крытыкаў і літаратуразнаўцаў. Адным з арганізатараў цэнтра выступае намеснік кіраўніка іранскага інстытута культуры Алі Махамадхані. Афіцыйнае заснаванне праекта мусіла адбыцца на Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы, што праходзіла ў Маскве з 7 па 11 верасня. Акрамя стварэння міжнацыянальнага літаратурнага прадпрыемства, абодва бакі зацікаўленыя ў наладжванні супрацоўніцтва іранскага інстытута «Шахрам кетаб» з расійскім кніжным домам «Біблія-Глобус».

• Рэдкія фаліянты, знойдзеныя ў макулатуры, былі перададзеныя 15 верасня Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь. Падчас Другой сусветнай вайны бібліятэка касцёла Ушэсця Дзевы Марыі ў Будславе была разрабаваная, знікла некалькі старажытных выданняў. Больш як праз паўстагоддзя яны знайшліся — у кантэйнерах па зборы макулатуры «БЕЛГІПС-ЭКА». Пасля правядзення кнігазнаўчай экспертызы было прынятае рашэнне перадаць выданні ў дар Нацыянальнай бібліятэцы. Самай каштоўнай са знаходак прызнаны падручнік тэалогіі Францішка Прылуцкага *Compendium Theologiae Moralis*, напісаны на лаціне ў 1765 годзе. Рукапіс быў аддрукаваны ў друкарні каталіцкага манаскага ордэна піяраў у Вільні. Таксама ўратаваныя «Псалтыр» (Кіеў, 1888), «Творы Памялоўскага» (том першы, 1909), «Творы М. В. Гогаля. Поўны збор у адным томе» (Масква, 1921).

# Гід па літаратурных музеях Беларусі

**Літаратурныя музеі сёння, як і іншыя культурныя арганізацыі, імкнуцца не адставаць ад часу і прыдумляюць новыя формы работы — для прыцягнення публікі, папулярызацыі нацыянальнай спадчыны. Калі прасачыць за афішамі, можна ўбачыць: апошнім часам усё часцей ладзяцца спецыяльныя праграмы для маленькіх чытачоў, займальныя квэсты, у залы з экспазіцыямі запрашаюць вядомых пісьменнікаў і музыкаў, у дворыках арганізуюць танцы і народныя гулянні, лялечныя спектаклі ды інтэрактыўныя гульні... Быць проста ўтульнай хаткай з пісьменніцкім антуражам ужо недастаткова.**

## РАЗНАСТАЙНАСЦЬ

Найбуйнейшы з літаратурных «аплотаў» краіны — Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры. Адкрываўся 10 гадоў таму, так што мы спакойна маглі адзначыць яго юбілей, але чакаем, пакуль адкрыецца пасля рэстаўрацыі. Экспазіцыя музея падрабязна расказвае як пра зараджэнне кнігадрукавання, так і пра сучасны літаратурны працэс у Беларусі, раскрывае цікавыя моманты з жыцця пісьменнікаў. Што самае адметнае? Старадрукі акурат з XVII — XVIII стагоддзяў, асабістыя рэчы класікаў, іх рукапісы, экслібрысы, этнаграфічныя экспанаты з усіх рэгіёнаў краіны, карціны Кашкурэвіча і скульптуры Азгура як прыемны дадатак, археалагічныя знаходкі з сярэднявечча... Калі ў такі музей трапіць чалавек, які літаратурай не надта і цікавіцца, нешта карыснае для сябе дакладна знойдзе. Нягледзячы на зачыненыя дзверы, у Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры некалькі філіялаў, якія зараз плённа працуюць.

## СІМВАЛІЗМ

Шкада, што ў шматлікіх літаратурных музеяў няма сваіх сайтаў або яны недастаткова аптымізаваныя пад сістэму пошуку — пакуль знойдзеш, гугл выведзе хутчэй у Яраслаўль, чым у Мінск. Старонкі на Фэйсбуку таксама не заўсёды абнаўляюцца так, як хацелася б. Таму атрымліваецца, што пра многія мерапрыемствы людзі не ведаюць ці даведваюцца апасля. Нават у самым, бадай, сімвалічным месцы — Літаратурным музеі Максіма Багдановіча, які пабудавалі недалёка ад разбуранага дома дзяцінства паэта, у Траецкім прадмесці Мінска, па праекце самога Эдуарда Агуновіча. Пяць залаў звязаны з перыядамі жыцця генія, тэмамі яго творчасці і цыкламі зборніка «Вянок». У кожнай зале свой экспанат-сімвал. Там, дзе ручнік, вышыты рукой маці, — сляды дзяцінства і юнацтва. Далей — партрэты сучаснікаў і дэбют у «Нашай Ніве», арыгінальны «Вянок», выдадзены пры жыцці, і раскрыццё таленту, «Мадонна» і яе вобразнасць, кішэнны гадзіннік бацькі і трагедыя лёсу... Часта ў адной з залаў праводзяць так званыя літаратурныя дэбаты, у душэўнай абстаноўцы распавядаюць адзін аднаму гісторыі з жыцця творчых людзей, чытаюць вершы і апавяданні...

Большая частка калекцыі музея — кнігі і фатаграфіі. Пяць асобнікаў «Вянка», літаратура, якая была папулярная ў час Багдановіча, напісаныя ад рукі вершы і нават вытрымкі з асабістага дзённіка. Працяг музея, яго філіял, «Беларуская хатка», распавядае не толькі пра жыццё паэта ў Мінску, але і пра літаратурны працэс пачатку XX стагоддзя ўвогуле. У гэтым доме ў 1916 — 1917-х гадах паэт здымаў пакой побач са Змітраком Бядулем. Эфект прысутнасці прадуманы да дробязяў: ад нядбайна пакінутага падшклянка да засунутых штор, што сімвалізуюць ноч — любімы час для творчасці ў Багдановіча. Нечаканая частка экспазіцыі — тэатральная зала з копіяй батлейкі. Тут ладзяцца спектаклі. Але і гэта не ўсё. Музей паэта працуе яшчэ і ў Гродне, у доме, дзе яго сям’я жыла з 1892 па 1896 год, так што асабістых рэчаў захавалася дастаткова, здымкаў таксама. Экспазіцыя дапоўнена партрэтнай галерэяй знакамітых людзей Гродзеншчыны. Адноўлены чатыры мемарыяльныя залы: кабінет бацькі Багдановіча, пакой яго маці, дзіцячая і гасцёўня.

## АКТЫЎНАСЦЬ

Адзін з самых актыўных сёння ў Мінску, здаецца, Літаратурны музей Петруся Броўкі: там пастаянна збіраюцца маладыя творцы. Ладзяцца сустрэчы з юнымі паэтамі, асабліва з аб’яднання *Textura.by*, кінапаказы, міні-канцэрты, выстаўкі фатаграфій майстроў беларускіх і замежных, перформансы... Атмасфера гэтага музея чэпкая, неадназначная, смелая, але ўтульная. Ёсць тут і мемарыяльная, і выставачная часткі. У доме сапраўды жыў пісьменнік. Захаваўся яго кабінет і бібліятэка — амаль у некранутым выглядзе. Маленькія, але дарагія сэрцу сувеніры на стале, томікі Драйзера і Бальзака — як быццам паэт адсюль і не сыходзіў.

## КЛАСІКА І НАВАТАРСТВА

Актыўна працуе Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа. Работнікі музея адраджаюць былую рэпутацыю дома Коласа, які славіўся адным з першых у горадзе культурных цэнтраў. Паэт жыў на Акадэмічнай цэлых 11 гадоў. Асабістыя рэчы і дакументы — усё захавалася ў тым выглядзе, як было пры жыцці паэта. Як ліст на працоўным стале, што ўжо 50 гадоў ляжыць некранутым…

Але, нягледзячы на багатую экспазіцыю, музей прадаўжае цікавіць перш за ўсё сваімі мерапрыемствамі. Нядаўна з’явіўся новы спецпраект для маленькіх «Крочым у школу разам з Коласам», які ўключае як знаёмства з творчасцю паэта, так і майстар-класы па вырабе лялек і паштовак, спектаклі, стварэнне малюнкаў, аўтарскае выкананне вершаў, рэтракінапаказы. Музей прапаноўвае таксама цікавыя вясельныя фотасесіі ў добрым антуражы. Яшчэ адзін прэм’ерны праект — экскурсія «Мясцінамі Коласа ў Мінску».

На малой радзіме Якуба Коласа ў Стаўбцоўскім раёне Мінскай вобласці працуе філіял музея «Мікалаеўшчына», які аб’ядноўвае мемарыяльныя сядзібы Акінчыцы, Ласток, Альбуць, Смольня. У апошняй жылі маці паэта, яго сёстры і браты, ён сам прыязджаў сюды, тут пазнаёміўся з Купалам, працаваў над паэмамі і вяртаўся… за некалькі месяцаў да смерці. Інтэр’ер мемарыяльнага дома ўзноўлены па ўспамінах, у ім шмат этнаграфічных рэчаў, якія адлюстроўваюць не толькі жыццё асобных людзей, але і ўвогуле сялянскі побыт пачатку мінулага стагоддзя.

У Акінчыцах у 1880-я гады жыў бацька Коласа Міхаіл Міцкевіч з сям’ёй, тут і нарадзіўся будучы паэт. На сёння гэта ўскраіна Стоўбцаў, а больш за 100 гадоў была асобная вёска. У Ластку прайшло ранняе дзяцінства Коласа, а ў Альбуці ён напісаў свой першы верш… У філіялах таксама праводзяцца тэатралізаваныя экскурсіі, музейна-педагагічныя заняткі, выстаўкі, творчыя сустрэчы з вядомымі людзьмі, літаратурна-музычныя святы. Вядомасцю карыстаецца навуковая канферэнцыя «Каласавіны».

## МАШТАБНАСЦЬ

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы быў створаны яшчэ ў 1944 годзе. Многія спрачаюцца, жыў тут паэт ці не. У самым будынку (музей раней быў то ў Доме пісьменнікаў, то ў Доме прафсаюзаў) не жыў, але музей пабудаваны на тым месцы, дзе стаяў дом Купалы, які згарэў у першыя дні Вялікай Айчыннай вайны. Рукапісы, архіў, бібліятэка — таксама. Аднак супрацоўнікі музея аднавілі і знайшлі мноства каштоўных рэчаў: прыжыццёвыя выданні, партрэты, фатаграфіі, асабістыя прадметы. У экспазіцыі цэлых 8 залаў. Акрамя таго, музей мае чатыры філіялы — «Вязынка», «Ляўкі», «Акопы», «Яхімаўшчына». Акрамя лекцый і экскурсій у музеі праводзяцца выстаўкі, прэзентацыі кніг, арганізуюцца сустрэчы з вядомымі беларускімі мастакамі і кампазітарамі. Квэсты для наведвальнікаў — папулярная апошнім часам форма — таксама прысутнічаюць. Дзякуючы галаграфічнаму вобразу ствараецца эфект прысутнасці паэта. Літаральна за метр ад сябе гледачы могуць убачыць Купалу, які гартае кнігу. Можна паслухаць і запісы яго голасу. Калі ў сталічным музеі пануе творчая актыўнасць, то ў Вязынцы, напрыклад, — атмасфера спрадвечнага, аўтэнтычнага: тут паэт нарадзіўся, побач з домам-музеем раскінуўся маляўнічы запаведнік… Гэта месца варта наведаць тым, хто хоча атрымаць сапраўдную духоўную асалоду і знайсці гармонію.



Фота з архіва музея.

*Свята Купалля ў скверыку ля Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы (2013 г.).*

## ТАЯМНІЧАСЦЬ

Яшчэ адно душэўнае месца — дом-музей «Завоссе» ў Навагрудку. Тут нарадзіўся Адам Міцкевіч. Дарагі для яго дом яшчэ захоўвае энергетыку гаспадара... Сядзіба была рэканструявана, па ўказе ўладаў створаны музей. Гэта сапраўдны шляхецкі двор другой паловы XVIII стагоддзя з усёй атрыбутыкай: аднапавярховая акуратная хатка з кароўнікам, адрынай, склепам, лазняй і маленькім возерам з прэснай вадой. Побач яшчэ і гара Жарнова, якую паэт згадваў у сваіх творах... На ўваходзе сенцы, потым сталовая, гасцёўня, спальня, аптэчка, камора для запасаў. Усё па правілах. Свіран у два паверхі, гаспадарчыя прылады на месцы — жорны і бочкі для квашання. На падлозе тут, як і ў часы жыцця Міцкевіча, скура мядзведзя, а побач — ложак, стол, дарожны куфар. Наогул, стварыць максімальны эфект прысутнасці, напэўна, — самае складанае ў музейнай справе. Пры рэстаўрацыі часта нешта губляецца. Нават лёгкі беспарадак — куды лепш, чым «нежывыя», афармленыя сучаснай шпатлёўкай, сцены і шклопакеты, што кідаюцца ў вочы.

Убачыць, як жылі сапраўдныя дваране, шляхціцы, можна і ў Літаратурна-мемарыяльным музеі-сядзібе Францішка Багушэвіча ў Кушлянах. Гэта таксама сапраўдная хата паэта, пабудаваная яшчэ ў 1896 годзе. Прыцягвае ўвагу стары парк, а ўнутры дома разам з класічнымі рэчамі — родавыя медальёны-абярэгі. Непадалёк ад сядзібы наведвальнікаў сустракае Лысая гара, дзе, па легендах, калісьці існавала паганскае капішча...

## МАЛАДОСЦЬ

Аршанскі музей Уладзіміра Караткевіча дзякуючы Саюзу пісьменнікаў яшчэ ў 90-х гадах не стаў назаўсёды ўсяго толькі філіялам. Адносна нядаўна, у 2002 годзе, адчыніў дзверы для першых наведвальнікаў. Гісторыя будынка незвычайная. З 1925 года тут размяшчаўся радзільны дом, у якім і з’явіўся на свет будучы пісьменнік. Што можна тут убачыць? Фрагмент кабінета і мінскай кватэры, літаратурную і навуковую спадчыну. Варта пачуць унікальныя запісы голасу пісьменніка, музычныя творы на яго вершы. На другім паверсе музея — мастацкая галерэя. А два гады таму адкрылася нарэшце Музей-дача Васіля Быкава да 90-годдзя з дня яго нараджэння. Загараднае жыццё інтэлігенцыі апошняй трэці XX стагоддзя — як на далонях.

## ШТО ДАЛЕЙ?

Тым часам у пасёлку Глуша Бабруйскага раёна збіраюць грошы на музей Алеся Адамовіча. Загадвае краўдфандынгавай кампаніяй яго дачка Наталля. У Глушу сям’я Адамовічаў пераехала з-пад Капыля ў сярэдзіне 1930-х. Бацька пісьменніка працаваў лекарам, маці — правізарам у мясцовай аптэцы. Ідэя стварыць у будынку старой аптэкі музей Алеся Адамовіча з’явілася яшчэ больш за 20 гадоў таму. Але, як і рэстаўрацыя, працэс збору матэрыялаў і сродкаў складаны і доўгі. Гэты музей стане прыкладам пашыранай экспазіцый, калі размова ідзе не толькі пра асобу пісьменніка, а, скажам, пра яго герояў. Тым больш прататыпамі былі сапраўдныя жыхары пасёлка. Творчы патэнцыял беларускіх музеяў, іх адмаўленне ад кансерватызму, звыклых метадаў працы толькі пачынаецца, але працэс гэты даволі актыўны, адметны.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Мар’ян Дукса:
# «Аўтар — галоўны герой і рэжысёр верша ці паэмы»

**Паэзія — не прафесія і не хобі. Паэзія — гэта прызванне. У вершах айчынных паэтаў — патрыятызм, філасофія, каханне, прыгажосць краявідаў… А якую ролю адыгрывае паэт сёння, у век высокіх тэхналогій, у «камп’ютарную эру»? Які ён, сучасны лірычны герой? Пра гэта і не толькі — наша гутарка з лаўрэатам Нацыянальнай літаратурнай прэміі ў намінацыі «Лепшы твор паэзіі» Мар’янам Дуксам.**


Фота Сяргея Нікановіча.

**— Мар’ян Мікалаевіч, што вы можаце сказаць пра месца і ролю паэта і паэзіі ў сучасным свеце?**

— Паэзія, ці не занадта рана, / пакрыўджаная, ты пайшла з экрана? / Паэзія, ці не занадта міла / сваё ты месца іншым саступіла? / Паэзія, твой воблік летуценны / куды накіраваўся з авансцэны?

Сапраўды, што з паэзіяй? Яна ўсур’ёз здала былыя пазіцыі? У савецкі час на нашым беларускім тэлебачанні рэгулярна выходзіла перадача «Пятнаццаць хвілін паэзіі», дзе той ці іншы паэт мог гаварыць пра сваю творчасць і чытаць свае вершы. Яе даўно няма. А тэлебачанне неймаверна захапілася забаўляльнымі праграмамі. Часам складваецца ўражанне, што перад экранам сядзяць толькі малыя капрызныя дзеці, якія плачуць і плачуць, і каб неяк іх супакоіць, суцешыць і рассмяшыць, студыя стараецца з усіх сіл…

Паэзію рана адпраўляць на паліцы музеяў. Хоць сёння яна не можа, як раней, збіраць поўныя стадыёны прыхільнікаў. Вершы — гэта ў пэўнай ступені феномен мовы, яе своеасаблівая мастацкая канструкцыя, а таму выклікаюць і будуць выклікаць пэўную цікавасць у чытачоў і слухачоў.

Мы заўсёды жылі і цяпер жывём на скрыжаванні дабра і зла. Бог пайшоў на супергеніяльны эксперымент, стварыўшы чалавека недасканалым, пры гэтым даўшы яму разуменне дабра і зла ды свабодную волю. Рабі, чалавеча, што хочаш, але ты ведаеш, што добра, а што нядобра. Зло і дабро суіснуюць у тваёй душы, свядомасці — прапорцыя ў кожнага свая. Ты недасканалы, але ўсё ў тваіх руках. Шліфуй, удасканальвай сябе сам. Гэта твая звышзадача на ўсё жыццё.

> *Шчырая сяброўская атмасфера, якая пануе сярод маладых пісьменнікаў, дае шанц адчуць, хто ёсць ты. Ці ёсць у цябе дар за душой, ці праглядваецца ў цябе арыгінальнае светабачанне, што ты можаш сказаць новага. А калі не можаш сказаць нічога, то найлепш своечасова сысці з першых прыступак Парнаса.*

Няўжо паэзія ў справе ўдасканальвання свету і чалавека можа стаяць убаку? Ні ў якім разе. Гэта яе святы абавязак — быў і ёсць. Толькі паэт — гэта не педагог з дубцом у руках. Паляпшаць свет і душу чалавека трэба, відаць, з дапамогай вывераных мастацкіх сродкаў, якія ўзвышаюць дабро і ганьбяць зло. Толькі рабіць гэта належыць больш актыўна і сістэмна — як па лініі кнігавыдання, так і жывога кантакту з людзьмі. Варта стварыць канкурэнцыю песеннай творчасці, якая запанавала на экране і сцэне. Закладзены ў паэзіі маральны, эстэтычны рэсурс невычарпальны, і ён заўсёды запатрабаваны здаровым грамадствам.

**— Ці ёсць у вас любімы паэт? Каго лічыце творчым настаўнікам?**

— У свой час я моцна захапляўся вершамі аўстрыйца Райнера Рыльке. Яго трагічнае светаўспрыманне было душэўна блізкім для маёй далёка не аптымістычнай натуры. Цікавай для сябе лічыў творчасць іспанца Федэрыка Гарсія Лоркі. У школьныя і студэнцкія гады краналі душу вершы чалавекалюбца Мікалая Някрасава, а таксама пранізлівая, ахутаная фаталізмам лірыка Аляксандра Блока. Калі браць савецкі перыяд, мае сімпатыі належалі Яўгену Еўтушэнку. З беларускіх класікаў люблю перш за ўсё Максіма Багдановіча. Калі гаварыць пра айчынных аўтараў, равеснікаў майго творчага юнацтва, назаву Анатоля Вярцінскага. Пералічаныя аўтары, кожны пасвойму, безумоўна, у той ці іншай меры ўплывалі на маю творчасць. Што да Рыгора Барадуліна і Алеся Разанава, я вельмі высока цаню іх паэзію, яны найбольш таленавітыя першапраходцы айчыннай літаратуры, да каго трэба ставіцца з вялікай пашанай.

**— «Птушка вечнасці — душа»... Які сэнс вы ўклалі ў назву свайго зборніка?**

— Назва зборніка «Птушка вечнасці — душа» адпавядае майму рэлігійнаму светапогляду. Пасланая Богам душа пасяляецца ў целе нованароджанага. І, адбыўшы пэўны зямны тэрмін, узбагачаная плёнам добрых учынкаў ці абцяжараная малапрыемным грузам амаральных спраў, яна адлятае ў вечнасць, і далейшы яе лёс нам невядомы. Тое, што «нешта» адыходзіць ад цела ў апошнія хвіліны жыцця — гэта ўжо не фантазія, а рэальнасць. Верыць у гэта ці не верыць, кожны чалавек вырашае сам. Справа, як гаворыцца, вельмі далікатная. Скажу толькі, што яшчэ ў дахрысціянскія часы людзі верылі, быццам душы іх продкаў недзе існуюць і часам выходзяць з імі на сувязь.

**— Як вы адбіралі творы для гэтай кнігі? У зборнік увайшлі толькі новыя вершы ці нешта друкавалася і раней?**

— У кнігу, пра якую ідзе гутарка, увайшлі вершы, напісаныя на працягу апошніх пятнаццаці гадоў. Так сталася, што перад гэтым арыгінальная кніга ў мяне выходзіла аж у 1993 годзе. Праўда, у 2003-м пабачыла свет мая невялікая кніжачка пад назвай «Прыйсці да алтара», падрыхтаваная каталіцкім выдавецтвам «Про Хрысто». Асобныя вершы з яе трапілі і ў цяперашнюю кнігу, але іх няшмат. Многія вершы з новага зборніка друкаваліся ў «Полымі», «Маладосці», «Нашай веры» і «ЛіМе». Рукапіс кнігі гадамі праляжаў у розных выдавецтвах, пакуль не трапіў у «Чатыры чвэрці», дзе дзякуючы ініцыятыве яго дырэктара Ліліяны Анцух, а таксама падтрымцы кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі, гэты вандроўнік-рукапіс стаўся друкаванай кнігай.

**— Ваш лірычны герой — гэта…**

— Мяркую, што мой лірычны герой перш за ўсё шматаблічны. Ён і аптыміст, і песіміст, і праўдалюбца, і гуманіст, і самотнік, і самаед, і пацыфіст, і вернік. Неадназначнасць, калейдаскапічнасць жыццёвага асяроддзя патрабуюць самых розных творчых масак і пераменлівасці душэўнага стану. А ўвогуле тэрмін «лірычны герой» ужо вельмі зацяганы. Ці не лепш яго замяніць проста паняццем «аўтар», бо менавіта аўтар і ёсць галоўны герой і рэжысёр верша ці паэмы. Насамрэч аўтар стварае пэўны характар і атмасферу твора. Іншая справа, што аўтар, ці лірычны герой, як правіла, прэзентуе не толькі сябе, але праз сябе іншых людзей, іх надзеі, радасці, расчараванні, іх волю і веру.

**— Што вас натхняе?**

— Натхняе перш за ўсё акрэслены лёсам абавязак гаварыць патрэбныя словы людзям. Тая вера, што гэта неабходна рабіць. Праўда, напачатку вершы пішу як бы для сябе. Пры ўзнікненні ў душы, у свядомасці нейкіх невыразных думак ці пачуццяў хочацца іх матэрыялізаваць у больш канкрэтнай, адчувальнай дотыкам форме. Пэўны поспех у гэтай справе прыносіць натхненне і радасць. А потым прыходзіць яшчэ і прыемнае спадзяванне, што твая ідэя, твая думка і адпаведны настрой могуць быць цікавымі іншым людзям. Як можа не натхніць тое, што наша мастацкае слова прыносіць задавальненне не толькі самому аўтару, але здольнае ўдасканальваць і чалавека, і цэлы свет!

**— Якія тэмы ў сучаснай паэзіі хвалююць найбольш? Чаму вы звярнуліся менавіта да філасофскай лірыкі?**

— Кожны асобны аўтар спавядае нейкія свае тэмы і схільнасці. Так званыя «традыцыяналісты» па-ранейшаму шмат пішуць пра вёску, пра яе месца ў аўтарскім сэрцы, пра яе цяперашнее бязлюддзе і занепад. Як правіла, гэта тэма падсвечана замілаванасцю і мінорнасцю. Мне здаецца, гэта тэма сябе вычарпала альбо патрабуе нейкіх новых акцэнтаў.

Надышоў час, калі нашу літаратуру, у тым ліку і паэзію, пачынае значна цікавіць сучасны чалавек, чалавек са спажывецкай псіхалогіяй: хочацца зразумець яго жыццёвую пазіцыю і памкненні. Столькі ў яго цяперашнім быцці старання і трапятання, каб выглядаць як найлепш «брэндава»! А колькі ў яго гарачага жадання хоць у нечым абскакаць суседа — ці па лініі шыкоўнага жылля, ці крутога транспарту, ці кар’ернага ўзлёту!

Наваспечаны гонар раптам пачаў засланяць нашы адвечныя талерантнасць, памяркоўнасць, сціпласць. Мітусімся, разрываемся на часткі, бяздумна трацім энергію — дзеля чаго? Каб наступіў бытавы трыумф? Каб зайздросцілі іншыя? Мы з’явіліся на зямлі толькі дзеля гэтага? Але тады — дзеля чаго? Што трэба рабіць, каб не запанавала ў нашым лёсе біблейская «марнасць»?

Пытанні няпростыя, філасофскія, але і паэзія, у тым ліку і мая, ніяк не можа абысціся без іх. Як не можа абысціся і без рэлігійных матываў, разумеючы душу як «птушку вечнасці», якая так ці інакш павінна мець стасункі з Богам, а таму быць бязгрэшнай, чыстай і светлай.

**— Хто ўваходзіць у ваш літаратурны асяродак?**

— Літаратурны асяродак сапраўды спрыяе хутчэйшаму станаўленню і развіццю творцы ў пачатковы перыяд. Шчырая сяброўская атмасфера, якая пануе сярод маладых пісьменнікаў, дае шанц адчуць, хто ёсць ты. Ці ёсць у цябе дар за душой, ці праглядваецца ў цябе арыгінальнае светабачанне, што ты можаш сказаць новага. А калі не можаш сказаць нічога, то найлепш своечасова сысці з першых прыступак Парнаса. Самае лепшае, калі такую «дыпламатычную рэкамендацыю» пачаткоўцам даюць іх жа сябры, а таксама дасведчаныя літаратары. Гэта добрая прафілактыка ад будучых душэўных траўм пасрэдных аўтараў.

З удзячнасцю ўспамінаю свой студэнцкі час, калі разам з Яўгеніяй Янішчыц, Алесем Разанавым, Генадзем Пашковым, Юркам Голубам, Рыгорам Семашкевічам ды іншымі пачаткоўцамі, потым добра вядомымі ў нашай літаратуры, уваходзіў у літаратурнае аб’яднанне «Узлёт», якім кіраваў шаноўны Алег Лойка. А цяперашні мой літаратурны асяродак, можна сказаць, ніякі. Я сам па сабе, бо жыву наводшыбе і мінскага, і гродзенскага літаратурнага жыцця. Добра гэта ці дрэнна? Напэўна, не зусім хораша. Што зробіш, так склаўся лёс.

**— Што для вас значыць Нацыянальная літаратурная прэмія?**

— Тое, што экспертнае журы аддала перавагу маёй кнізе, натуральна, выклікала станоўчыя эмоцыі. З’явілася прыемнае адчуванне, што кампетэнтныя людзі ўхвалілі мае асобныя тэмы і ідэі, як і мастацкую «вопратку» іх. Але асабісты гонар з нагоды прысуджэння прэстыжнай прэміі, напэўна, мусіць быць умерана-асцярожным. Каштоўнасць любой кнігі вызначаецца ў першую чаргу яе запатрабаванасцю ў чытачоў, а з гэтым у нас ёсць пэўныя праблемы, да таго ж існуе няўпэўненасць, што мая кніга да іх дойдзе: тыраж усяго 300 асобнікаў. На нашу немалую Беларусь гэта гранічна мала. Вядома ж, сёння фінансы — справа сур’ёзная, што паробіш, іх не хапае. Але было б вельмі дарэчы, каб бюджэт раёнаў і абласцей усё-ткі прадугледжваў паступленне ў бібліятэкі новых кніг, каб хоць такім чынам далучыць нашых чытачоў да беларускай мастацкай літаратуры.

Ва ўсякім выпадку, вельмі пахвальна, што існуе ў нас такая аўтарытэтная літаратурная прэмія, якой нададзены статус Нацыянальнай.

**Яна ЯВІЧ**

# «Вучань вечнасці» названы класікай

**Аб'ёмную паэму «Вучань вечнасці» напісаў наш рускамоўны паэт Ізяслаў Катляроў, які жыве ў Светлагорску. Асобнай кнігай яна пабачыла свет у маскоўскім выдавецкім доме «Золотое перо». Адразу ж у «Литературной газете» з'явілася кароткая рэцэнзія, у якой паэтычны твор быў аднесены да рускамоўнай класікі нашай краіны.**

Здавалася б, неблагая нагода для нашых крытыкаў пагаварыць пра не зусім звычайную паэму. Відаць, шчыры зацікаўленай гаворкі чакаў і аўтар. Але ішоў час, а крытыка маўчала. Чаму? Пэўна, па той прычыне, што твор гэты няпросты, шматпланавы і вымагае непаверхоўнай гаворкі і ацэнкі сюжэтнай пабудовы, глыбокага пранікнення ў сутнасць твора, усебаковага асэнсавання філасофскіх разваг паэта, якія присутнічаюць на многіх старонках.

Што ж прадстаўляе сабой твор? Папершае, трэба сказаць, што некаторыя раздзелы паэмы «Вучань вечнасці», заснаваныя на аўтабіяграфічным матэрыяле, выгадна вылучаюцца на фоне іншых дакументальнай праўдзівасцю, вывераным і дакладным псіхалагізмам перажыванняў лірычнага героя. Паэма, відаць, стваралася некалькі гадоў. У ёй ажно пяцьдзясят раздзелаў! Твор нагадвае грандыёзны архітэктурны ансамбль, з асобнымі забудовамі і прыбудоўкамі, рознымі як па стылі, так і выкананні. Кожны раздзел мае асобную назву, з абстрактнай псіхалагічнай сутнасцю і значэннем: «Страх», «Вера», «Ісціна», «Жалоснасць», «Падсвядомасць», «Чаканне», «Ілюзія».




Вядома, паэт піша не навуковы трактат, і, хоць у радках дзенідзе сустракаюцца асобныя навуковыя і філасофскія тэрміны, яны ніколькі не замінаюць чытачам, не прымушаюць хапацца за тлумачальныя слоўнікі. У аснову кожнага раздзела Ізяслаў Катляроў кладзе канкрэтнае назіранне, перажыты ім факт ці з'яву, гаворыць пра ўсё гэта падрабязна і грунтоўна, скіроўваючы гаворку ў рэчышча філасофскіх высноў. Увагу прываблiваюць старонкі, у якіх аўтар гаворыць пра ўласныя перажыванні і хваляванні, калі ён знаходзіўся ў бальніцы пасля хірургічнай аперацыі, пра што думаў і непакоіўся. Ніхто не папракне аўтара нават у тым выпадку, калі ён перарывістым голасам гаворыць пра скон, не хаваючы боязі і страху, забыўшыся на выказванне аднаго з філасофаў: калі жыву, то не баюся смерці, а калі памру, то не буду ведаць пра яе.

Але гэта, безумоўна, дробязі ў параўнанні з тым, якія тэматычныя глыбы спрабуе ўзняць Ізяслаў Катляроў у паэме. Аўтар здольны здзівіць не толькі «шараговых» чытачоў, але і навукоўцаў сваёй дасведчанасцю ў рэлігійных і філасофскіх пытаннях. Ён звяртаецца да шэрагу багасловаў і філасафаў. І не проста згадвае іх, а гаворыць з веданнем справы пра іх філасофскія погляды, дае ім пэўную ацэнку, згаджаецца ці не згаджаецца з імі, прымярае іх да сябе і ўласнай біяграфіі. Некаторыя старонкі нагадваюць споведзь, дзе паэт прызнаецца ва ўласных грахах, раскайваецца ў зробленых памылках, дае зарок больш не паўтараць іх. Пры гэтым выяўляе не толькі эмацыянальнасць, але і энцыклапедычныя веды, так што ствараецца ўражанне, нібы мы маем справу з акадэмічным супрацоўнікам ці ўладальнікам філасофскай навуковай ступені. Такія культурныя знакі, як Біблія, Бог, Стары і Новы Завет, пераходзяць з раздзела ў раздзел, набываюць пад пяром аўтара новыя адценні. Разам з тым аўтар пастаянна вяртаецца да той ці іншай думкі, выказанай ім раней, пачынае ўдакладняць яе, развіваць і паглыбляць.

Дарэчы, калі як след учытацца ў раздзелы, бачна, што кожны з іх уяўляе сабой самастойную паэму з усімі неабходнымі кампанентамі: завязка, кульмінацыйны пункт і развязка. Такім чынам, паэма «Вучань вечнасці» ўяўляе складаны твор, скампанаваны з асобных паэм. Застаецца толькі пашкадаваць, што І. Катляроў не выдаў кожную з іх асобнай кніжкай. Хаця гэта амаль неверагодна зрабіць у наш няпросты час.

Калісьці адзін з пладавітых і бойкіх крытыкаў, гаворачы пра вершы І. Катлярова, зазначыў, што яго творчасць пераклікаецца з творчасцю рускага паэта У. Сакалова. І трапіў, як кажуць, пальцам у неба. Як мне здаецца, многія строфы і вершы І. Катлярова блізкія да радкоў Я. Еўтушэнкі: «Я делаю себе карьеру тем, что не делаю её». Паэт пабачыў тут для сябе творчы кландайк і пачаў распрацоўваць гэты прыём далей, пакуль не знайшоў свой уласны і арыгінальны, які паэт прадэманстраваў у раздзеле «Развязлівасць»: «И не признавшись, всё-таки признаться, и согласиться, вновь не согласясь, и отказавшись, всё ж не отказаться, чтоб сохранить разорванную связь». Паэт увесь час імкнецца вырвацца з абдымкаў коснасці, застарэлых стэрэатыпаў, а таму чуйна прыслухоўваецца да навізны і знаходак больш дасведчаных калег па пяры, не саромеючыся ў іх вучыцца.

Нягледзячы на немалады ўзрост і здароўе, што пачынае падводзіць, паэт не ўпадае ў роспач, творыць, шукае, выступае з вершамі на старонках часопісаў, выдае кніжкі, радуе чытачоў новымі творамі. У тым ліку і паэмай «Вучань вечнасці».

**Васіль МАКАРЭВІЧ**




# Блюз па літарах і складах

Як паказвае практыка, дэбютныя паэтычныя зборнікі найчасцей гучаць у мінорнай танальнасці. Жыццярадасныя, сонечныя вершы — доля рэдкіх абраннікаў кшталту Кацярыны Глухоўскай. Дэбютная кніга Ганны Галавіной выключэннем не стала. «Яблык Зямля» — гэта суплёт песень пра страчанае і незваротнае, пра сумнае ў штодзённым харастве жыцця і светлае ў звычным суме.

Словам, усё складана. Гераіня, якая і ёсць аўтарка, знаходзіць асалоду ў сваіх няшчасцях. Не тое каб гэта было выяўленнем мазахізму — хутчэй, прыцягненне юначага максімалізму. Пра аўтарку зборнік нічога не паведамляе, аднак на віртуальных паэтычных пляцоўках няцяжка знайсці тыя ж вершы з пазнакай года напісання. Адзін з іх датуецца 2004 годам. Няхітрая матэматыка паведамляе, што ў зборнік (у тым ліку) увайшлі вершы дванаццацігадовай даўніны. То бок, хутчэй за ўсё, падлеткавыя. Што расстаўляе кропкі над «і»: адкуль такая трагедыйнасць гучання, традыцыйныя дажджы з мастамі ў наборы вобразаў, а яшчэ, вядома ж, — поўня, ноч, снягі і іншыя прыродныя з'явы, стала прапісаныя ў вершах юных паэтаў. Так, зборнік самы што ні ёсць дэбютны.

Сюды ж варта дадаць рэлігійную вобразнасць, да якой у стане палкай узрушанасці звяртаюцца юнакі і дзяўчаты, блытаючы ў адно язычніцкія і хрысціянскія матывы (зрэшты, рыса, характэрная ўвогуле для белліту). У Ганны Галавіной, прыкладам, з'яўляюцца анёлы. Аднак яны тут выступаюць як знак чысціні, супрацьвагі сумневам і хаосу, што творыцца ў душы аўтара, увогуле няўцямнай чалавечай прыродзе.

Асобна размаўляць пра вобразнасць зборніка змушае сам зборнік: паэзія Ганны Галавіной надзвычай густа заселеная сімваламі, фармальнымі маркерамі душэўных станаў (кшталту дождж — сум). Яе вершы вымагаюць не проста ўважлівасці, але засяроджанасці: лічы, кожны новы радок пераносіць чытача ў новую прастору. Лучаць гэтыя розныя карцінкі настрой і адна цэнтральная думка, прыкладам, «мы не маглі не расстацца, але я ўсё роўна цябе кахаю». У адным вершы сустракаюцца: метафара закапанай зброі, шматзначны эпітэт «сталёвыя вочы», горкае шчасце, увасобленае пунцовымі брусніцамі, а яшчэ попел перамог — такая сабе адсылка да Піравай перамогі. Усё вянчае яркі фінал:

*Я, каб убачыць цябе на каленях,*
*Згодна быць жменяй апошніх брусніц.*

Фінал неадназначны. У нечым гэтае параўнанне падаецца камічным — злёгку, аддалена. Але калі адкінуць скептыцызм — арыгінальна і нават моцна, ці не так? Каб захаваць рэалістычнае адчуванне радка, трэба быць максімальна аб'ектыўным, нават халодным. Як хірург, што аперыруе блізкага чалавека (нездарма гэта забаронена ў медыцынскай практыцы). Ганне Галавіной абвостранае перажыванне асабістых трагедый часам яшчэ замінае бачыць радок вачыма староннягa. Але, з іншага боку, разняволенасць дазваляе нараджаць такія вось небанальныя вобразы. Дасягнуць гэтае разняволенасці штучна амаль немагчыма. Таму лепш часам аступацца, чым выдаваць безжыццёвы радок. Тут згадваецца ранні Анатоль Сыс, які ў творчай гарачцы перахоплівaў цераз край. Але што пасля з гэтага выйшла?.. Непараўнальная, вогненная паэзія.

У зборніку «Яблык Зямля» ёсць два галоўныя героі (калі не лічыць ўласна апавядальніка-гераіню). Папершае, гэта страчаны рай, загубленая радзіма апавядальніка ў міні-паэме «Атлантыда». Найменне Атлантыда тут насамрэч умоўнае, бо вобраз страчанага шчасця, утульнасці, абароненасці сустракаецца і надалей, у безыменных вершах спадарыні Ганны. Краіна, якой няма, — паняцце адназначна духоўнае, не геаграфічнае. Атлантыда выкарыстоўваецца тут як культурны знак.

Другі герой — каханы, і зноў — страчаны. Часова ці назаўжды — не істотна. Галоўнае — стан, у якім аказваецца гераіня, стан на памежжы сну і явы, да якога даводзіць адчай. Калі ўсё дарагое страчана, з'яўляецца адчуванне палёту, волі, якое памылкова можна прыняць за шчасце ці радасць. Адсюль і вынікаюць гэтыя парадаксальныя станы гераіні, у якіх яна адначасова шчаслівая і няшчасная; настрой, у нечым падобны да блюзавага, — нетаропкі, тужлівы, з прамільгамі адчайнай весялосці.

*…Але яшчэ мацней трымае воля,*
*Ушчэнт выпальвае святы спакой.*
*Не даравацъ і не забыць ніколі,*
*Што ўмею прачынацца не з табой.*

Да слова, афарыстычны фінал, пабудаваны на парадоксе ці супрацьпастаўленнях, — улюбёны прыём аўтаркі.

Адметна, што аўтарка не аддзяляе сваю рэчаіснасць ад паэтычнай творчасці. Тут паказальныя радкі:

*Што за гэта, ўрэшце, атрымаю,*
*Колькі дзён кароценькіх, аж смешна,*
*Высахлых да стану кепскіх вершаў,*
*Для таго, каб моўчкі іх схаваць?*

То бок, усякая з'ява для яе канвертуецца ў паэзію; цэннасць пражытага вызначаецца якасцю верша, які пасля ўсяго мае магчымасць з'явіцца. Паэтэса Ганна Галавіна, відавочна, рамантык, і стагоддзе таму яна, без сумневу, наследавала б містычным вершам Купалы і дэканту Багдановіча. Зрэшты, яна і сёння гэта робіць, толькі між радкоў, у асобных вобразах, якія прамільгваюць амаль незаўважна, у адзін кароценькі момант нагадваючы пра нешта даўно знаёмае. Гэта, пэўна, наследаванне не столькі Купалу-Багдановічу, колькі беларускай рамантычнай традыцыі ўвогуле.

Але вернемся да паэмы, якая насамрэч і не паэма. Гэта эксперыментальная форма спалучае рысы вянка санетаў, белага верша і цыкла твораў. На самым пачатку аўтарка прыводзіць 28 пранумараваных радкоў, якія складаюць адзін верш пра прыўкрасную і загубленую Атлантыду. Далей чытача чакаюць чатырнаццаць вершаў, загалоўнымі радкамі якіх з'яўляюцца парныя радкі верша «Атлантыда», па чарзе, 1-2, 3-4 і г. д. Навошта? Быць можа, гэтыя радкі ўплятаюцца ў наступныя вершы, па прынцыпе, зваротным ад прынцыпу пабудовы магістральнага санета ў вянку санетаў?.. Не. Фармальна (рыфмай, вершаваным памерам) гэтыя радкі адасобленыя ад верша. Адзіная прывязка — тэматычная, але і яна надта кволая. Словам, без іх вершы гучалі б гэтаксама, то бок самадастаткова. Асабліва «Лета. Вечар. Дождж прайшоў, / Ноты салавей знайшоў», «Мільён гадоў — сусвет, рамонкі — сонца…» і незабыўныя радкі:

*Гадзіннік стаў падобны на вятрак,*
*Ахоплены паспешлівасцю часу.*

Іх варта было б назваць беззаганнымі, калі б не рускамоўная форма «падобны на» замест «падобны да». З русізмамі аўтарцы, відаць, варта пазмагацца.

Ганна Галавіна — аўтар невыпадковы. Дэбютны зборнік «Яблык Зямля» шмат у чым блізкі з іншымі дэбютнымі кнігамі вершаў: засяроджанасць на асабістым, якая часам ператвараецца ў заграванне ў пачуццях, якое, у сваю чаргу, нараджае шматслоўнасць. Аднак гэта толькі акалічнасці, якія і асаблівай увагі не заслугоўваюць. Істотна іншае: асобныя яркія радкі, арыгінальныя і пры гэтым натуральныя, не надуманы, вобраз, разняволенасць, якая разам з талентам і ёсць падмурак мастацтва. І яшчэ — смеласць. Усё разам можа прывесці аўтара да поспеху (калі яму гэта трэба).

**Наста ГРЫШЧУК**

# ЭТАПЫ САМСОНА ПЯРЛОВІЧА

**Даўнавата, гадоў 15 таму, згледзела з акна восьмага паверха сваёй кватэры, у доме амаль насупраць, хаўтуры. Не дзіва: кожны дзень нехта памірае — жыццё… Але ў невялікім горадзе раённага маштабу, а менавіта ў Навагрудку, людзей, у адрозненне ад Мінска, «провожают всем двором». А тут — вынеслі труну, паставілі ў грузавую машыну, закрылі барты. За машынай селі ў легкавушку дзве жанчыны і хутка паехалі. Потым я спытала ў людзей з нашага двара, каго хавалі. Дзіва… Хавалі паэта, якога ведалі калі не ўсе навагрудчане, дык большасць. Праўда, у гэтым доме Самсон Пярловіч жыў нядаўна, хоць на старасці займеў кааператыўную кватэру…**

Так сталася, што бібліятэка, дзе я доўгі час працавала загадчыцай, знаходзілася па суседстве з домам, у якім жыў Самсон Пярловіч. Я яго ведала завочна яшчэ школьніцай, калі бацька браў у рукі чарговую раёнку і з захапленнем чытаў удалую і трапную байку паэта. Потым, калі мы з Самсонам Георгіевічам пазнаёміліся асабіста, пакрысе даведвалася пра яго цяжкі лёс. Па адукацыі ён быў настаўнікам, але пасля ГУЛАГа пра настаўніцтва, а тым больш пра работу ў рэдакцыі, і думаць не выпадала.

*Мне мой лёс здаецца толькі чорным,*
*Што не варты меднага граша.*
*Толькі ёсць у ім і тыя зёрны,*
*Што мая выспельвала душа.*
*Тых зярнят няхай не вельмі многа,*
*Але ўсё-ткі, служачы красе,*
*Веру я: да скарбу залатога*
*Хтосьці іх калісьці аднясе.*

Працуючы ў Навагрудку па суседстве з паэтам, я сустракалася з ім амаль кожны дзень. Не скажаш, каб ён расказваў ці хаця б імкнуўся расказаць пра сваю маладосць, асабліва пра гады зняволення (а мяне гэта цікавіла). Наогул, людзі, якія пацярпелі з-за сваіх перакананняў і адбылі пакаранне (не раз у гэтым упэўнівалася), былі асцярожныя, скрытныя, залішне падазроныя нават да добрых знаёмых.

Канечне, чытаючы творы паэта, памятаючы яго самога і нашыя размовы, усведамляеш, што ён разумеў, адэкватна ацэньваў вартасць сваёй творчасці, бачыў, што піша не горш, а можа, дзесьці і лепш за іншых, знакамітых, пісьменнікаў, але мінулае трымала, не давала раскрыцца ў поўнай меры, стаць вядомым больш чым на Навагрудчыне. Тут, на радзіме, яго ведалі, многія завучвалі творы на памяць. Сама была сведкай, як вясковая жанчына дэкламавала байкі паэта ў бальнічнай палаце. Немаладая, збялелая пасля аперацыі, раптам заўсміхалася, калі зайшла гаворка пра грыбы, што ўрадзілі сёлета. Прыўстала, прачытала нам на памяць:

*«Зноў паедзем па грыбы», —*
*Абвясціў начальнік велькі. —*
*«Транспарт знойдзецца, абы*
*Кожны ўзяў па тры бутэлькі».*
*«Тры бутэлькі, божа мой! —*
*Некаторыя занылі, —*
*Помнім, бралі па адной —*
*І то кошыкі згубілі!..»*

Самсон Пярловіч быў проста апантаны ідэяй быць членам Саюза пісьменнікаў… Памятаю, мы, бывала, гаварылі з Самсонам Георгіевічам, што пісьменнік заўжды павінен помніць пушкінскае: «… ты сам себе твой высший суд…», але, пражыўшы такое складанае жыццё, усё ж яму хацелася прызнання, ацэнкі калег па пяры. Чвэрць стагоддзя адпрацаваўшы ў Навагрудку загадчыцай бібліятэкі, дасюль памятаю, як часта прыязджалі сюды на творчыя сустрэчы сталічныя пісьменнікі. Садзіліся за стол з чырвоным абрусам і кветкамі. Запрашалі


Самсон Пярловіч.

і Пярловіча, які звычайна сядзеў на ўскрайку сцэны. Пры канцы сустрэчы яму давалі слова. Самсон Георгіевіч чытаў публіцы ў асноўным байкі. Гэта быў якасны беларускі гумар, напісаны сакавітаю моваю, народны, жыццёвы, зразумелы і блізкі кожнаму слухачу.

Хоць Самсон Пярловіч і друкаваўся у газетах, але выдаць кнігу не ўдавалася. І толькі ў 1994 г. прафесар Алег Лойка падрыхтаваў, напісаў прадмову і выдаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура» зборнік вершаў паэта «Бяссмертнік». Тут сабраны патрыятычныя, лірычна-жыццёвыя, гістарычныя вершы. Асобна ідуць жартоўныя — добры гумар. Выбіць у чытача слязу не так і цяжка, а вось рассмяшыць...


Пётр Андрэеў, Самсон Пярловіч і Пятро Глебка на сустрэчы ў Навагрудскай бібліятэцы. 1960-я гг.

Гумарыстычныя творы паэта пабачылі жыццё значна пазней, пасля турмаў, лагераў, высылак, пакут паднявольнай працы на паўночных лесапавалах, будаўніцтва шахт у Карагандзе. Быў зняволены абставінамі, ды не духам. Бо вершы пісаў, нягледзячы ні на што. Складаў у памяці, чытаў сябрам. А вершы былі поўныя гора і пратэсту, мужнасці, супрацьстаяння… Ён мог бы застацца аўтарам адзінага верша «Паднімецца крыўда», які 24-гадовым юнаком напісаў у 1947 годзе і за які быў тады ж асуджаны на дзесяць год. Прычым яго як аўтара гэтага верша захацеў пабачыць сам Цанава, які проста не мог паверыць, што ў Беларусі малады чалавек наважыўся паўстаць супраць самога Сталіна!

*Сталін-тыран, і старых, і малых*
*Запрэгшы ў прыгонныя ёрмы,*
*Нявіннай крывёй суцяшае іклы,*
*Каму колькі жыць, ставіць нормы.*

Але аўтарам аднаго верша Самсон Пярловіч не застаўся: у зняволенні нарадзіліся вершы «Без білета», «Тайга», «Праўда ў аковах», «Белы мядзведзь», «Раз'юшаны вые і свішча», «Паўночная серэнада» ды інш. Толькі ў 1956 г. Самсон Пярловіч вярнуўся на радзіму, але працаваць пайшоў не ў рэдакцыю, адкуль быў арыштаваны, а рабочым на завод газавай апаратуры. За столькі гадоў ужо ніхто не дзівіўся, што прафесійны рабочы ад станка піша такія цудоўныя вершы. Многія яго творы былі пакладзены на музыку і выконваліся народным ансамблем песні і танца «Свіцязь» у розных кутках Беларусі і за яе межамі…

Калі мяне прымалі ў Саюз пісьменнікаў і даведаліся, што я з Навагрудка, папрасілі: няхай перашле патрэбныя паперы мой зямляк Самсон Пярловіч — камісія разгледзіць яго кандыдатуру. Я перадала гэта Самсону Георгіевічу…

Даўно няма на гэтым свеце паэта Самсона Пярловіча, шмат каго з блізкіх таксама ўжо няма… Я жыву і працую ў Мінску. Не так даўно трапіла ў рукі кніга — фаліянт «Гісторыя Навагрудка — з глыбінь вякоў да нашых дзён». Адгортваю вокладку, бачу выяву цэнтра горада, а пад ёю прыгожым цісненнем прадстаўлены як эпіграф да кнігі верш Самсона Пярловіча «Мой любімы горад». Веру, што імя Самсона Пярловіча, як і гэтая кніга, будзе жыць.

**Таіса СУПРАНОВІЧ**

## З творцамі — па дарозе!




Новая кніга Мікалая Чырскага — для ўсіх, хто ездзіць дарогамі Р1, Р28 і Р58, не бянтэжыцца велічных імёнаў айчынных класікаў і нават плануе калі-небудзь выправіцца з сям'ёй у славутыя Акінчыцы ці Акопы. «Літаратурныя вандроўкі па зямлі Купалы і Коласа» натхняюць на распрацоўку ўласнага маршруту — у дарозе чытанне кнігі будзе ідэальным!

Невялікае даведачнае выданне ўтрымлівае ўсё, што можа спатрэбіцца падчас падарожжа ў літаратурны музей: узнёслыя словы, выдатныя вершы, шмат лаканічнай і цікавай інфармацыі краязнаўчага плана, гісторыі з жыцця пісьменнікаў, адрасы і тэлефоны патрэбных устаноў... Плюс кнігі ў тым, што Мікалай Чырскі (старшыня Беларускай асацыяцыі экскурсаводаў і гідаў-перакладчыкаў) не засяроджваецца выключна на жыццёвых і творчых шляхах народных паэтаў. Напрыклад, на Купалавым маршруце аўтар прыпыняецца ў ждановіцкай зоне адпачынку, на лецішчы Васіля Быкава, у Заслаўі ды Радашковічах, завітвае ў Карпілаўку на месца былой сядзібы Ядвігіна Ш. і між іншым раскрывае загадкавы псеўданім пісьменніка. На зямлі Коласа аб'ектамі ўвагі робяцца Малыя і Вялікія Навасёлкі, гарадскі пасёлак Негарэлае, станцыя Коласава, дзе ў 1933 годзе адбыўся знакаміты абмен палітвязнямі, ды іншыя цікавыя мясціны.

Вандроўкі па зямлі Купалы і Коласа пачынаюцца з Мінска, з парку імя Янкі Купалы, Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы і Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа з плошчай Якуба Коласа адпаведна. Далей чытач крочыць па дарогах з Мінска да месцаў нараджэння беларускіх класікаў. У кнізе шмат вершаваных радкоў Купалы і Коласа, якія, на думку аўтара, былі напісаныя ў пэўным месцы або прысвечаны яму. Творчасць Якуба Коласа багатая на аўтабіяграфічныя элементы, таму цытаванне радкоў з «Новай зямлі» і трылогіі «На ростанях» — абавязковая рэч. Ёсць у выданні радкі з тэкстаў іншых паэтаў і літаратуразнаўцаў, прысвечаныя класікам беларускай літаратуры.

Кніга надзвычай багатая на фотаздымкі. Амаль усё, пра што гаворыцца ў выданні, пацверджана ілюстрацыямі ледзь не на кожнай старонцы: фота Анатоля Дрыбаса, Анатоля Клешчука, Яўгена Пясецкага ды інш., матэрыялы з музейных фондаў… Праўда, не ўсе фота аднолькава якасныя.

Мікола Чырскі з захапленнем распавядае пра мінулае Беларусі, пра вёсачкі і гарады нашай краіны. Многія старонкі чытаюцца не як геаграфічны даведнік, а як мастацкі твор. Але лірычнасць прадмоў ураўнаважваецца дакладнасцю звестак з гісторыі і геаграфіі. «Літаратурныя вандроўкі па зямлі Купалы і Коласа» — выдатны папяровы гід па Міншчыне, Стаўбцоўшчыне, Маладзечаншчыне... Не менш істотна, што гэта кніга для шырокага чытача, якую можна ўпэўнена прапанаваць сябрам ды сваякам і такім чынам нагадаць пра беларускі культурна-гістарычны кантэкст. Нават той, хто пакуль не мае часу на ўласную вандроўку, прачытаўшы кнігу, такі падарожнічаў з аўтарам.

**Яўгенія ШЫЦЬКА**



## Ігар ПРАКАПОВІЧ

***

*Восень на струнах сардэчных іграе*
*Сумныя песні свае.*
*Жоўтае лісце на полі ганяе,*
*Шоргат іх спаць не дае.*

*Цёмная ноч — як бяздонная прорва*
*З пекла да райскіх вяршынь.*
*Як яшчэ цёпла было нам учора.*
*Сёння ж — касмічная стынь.*

*Вочы заплюшчу, а думкам не спіцца.*
*Шоргат ім спаць не дае.*
*Праўда ўжо восень? Ці, можа, мне сніцца?*
*Што ж там так вые-пяе?*

***

*Галасіла восень шумнымі дажджамі,*
*Размывала жорстка летнія шляхі,*
*Засыпала сцежкі жоўтымі лістамі,*
*Прымушала рэчку рушыць берагі.*

*І было ў тым плачы столькі негатыву*
*Ды і столькі болю, што не расказаць…*
*А сусед мне кажа:*
*«Гэты дождж — як дзіва.*
*Гэты дождж як свята.*
*І як благадаць…»*

## Дзесьці там

*Вечар… Ціха… На пялёсткі*
*Падае раса.*
*Дзесьці там, на ўскрайку вёскі,*
*Дзінькае каса.*

*Дзесьці там густыя травы*
*Лягуць у пракос.*
*Будзе добры воз атавы.*
*Будзе ладны воз.*

*Дзесьці там каровы с пасты*
*Важна йдуць дамоў,*
*І нясуць у дзень сучасны*
*Смак малочных сноў.*

*Тых чароўных летуценняў,*
*Што калісь былі, —*
*Казку, сшытую з імгненняў*
*Неба і зямлі.*

*Дзесьці там праз водар мяты*
*Успамін плыве.*
*Дзесьці там і рай, і свята,*
*Ды няма мяне…*

***

*З часу юначых забаваў*
*Памяць успомніць парой*
*Лазню на беразе става,*
*Чырвань малін над вадой,*
*Ранак, прамоклы ад росаў,*
*Сонца вялікага шар,*
*Пах ад прывялых пракосаў,*
*Прорву жаданняў і мар.*
*Штосьці ў жыцці адбылося,*
*Нечаму ў лёсе не быць.*
*Дзякуй, што ўсё ж давялося*
*Ўсё гэта бачыць. І жыць.*
*…З часу юначых забаваў*
*Памяць успомніць парой*
*Лазню на беразе става,*
*Чырвань малін над вадой…*

***

*Пачуцці ападаюць, як пялёсткі*
*З прыгожай кветкі, што на сонцы красавала.*
*Пусцеюць навакольныя палеткі,*
*І яркіх колераў становіцца так мала.*

*І немагчыма з гэтым суладарыць,*
*Бо нельга перайначыць непазбежнасць.*
*Адзінае, пра што прыемна марыць, —*
*Гэта мяжа, за якой ёсць бязмежнасць.*

*За той мяжой магчыма паўтарэнне:*
*Ці пыл касмічны, ці крыніцы кропля.*
*І будзе гэта пераўвасабленне*
*Не наша думка і не наша воля.*

*У нейкім іншым зорным вымярэнні*
*Праз тэрмін часу, што завецца Вечнасць,*
*Нязнанае дзівоснае стварэнне*
*Напіша верш*
*пра лёсу непазбежнасць…*

## Восень ідзе

*Яснее прастора, пусцеюць палі,*
*У рэчцы вада халаднее.*
*Чарговая восень ідзе па зямлі,*
*Сукенка на ёй чырванее.*

*А вочы халодныя поўныя слёз,*
*Якія дажджамі пральюцца,*
*Глядзяць у зіму і ўжо бачаць мароз,*
*Баяцца назад азірнуцца.*

*За спінай яе — зяляніна травы*
*І птушак вясёлыя спевы.*
*Наперадзе ж — вуханне соннай савы*
*І голыя-голыя дрэвы…*

## У вёсцы Рымкі

*Адбітак вечнасці — рачная плынь Дзісны.*
*Даўно не звоняць тут царкоўныя званы.*
*Марнеюць хаты, і сады дзічэюць,*
*І печкі стылыя нікога ўжо не грэюць.*

*Саспелы яблык упадзе ў траву,*
*І здасца, рэха выгукне: «Ау-у-у…»*
*Але ніхто адказу не пачуе,*
*Хіба каршун, што вёскі сон вартуе…*





## Тадора ШПІЛЬКА

***

*Калі ноч марудна,*
*кропля за кропляй,*
*як паскудна-гаркавыя лекі,*
*бяссонне маё глытае,*
*войнам,*
*што на ладдзі*
*ў апошні свой шлях адплывае,*
*сябе ўяўляю.*
*Святарны агонь*
*цела маё з'ядае,*
*спраў штодзённых зацірку:*
*спрэчкі з начальствам,*
*вечную незадаволенасць*

***

*Трывога паўзе паміж соннай лістоты*
*па схілах. Напятыя нервы. Чаканне.*
*Світанне на скалах ляжыць пазалотай,*
*і на пазыўныя адказам — маўчанне.*
*Застылі хвіліны, стаіліся горы*
*і зніклі жаданні, як час, беззваротна.*
*Адною малітвай пульсуе прастора:*
*вяртайся жывым, што пасля — не істотна!*

***

*Каб даведацца,*
*пра што ты думаў*
*у апошні свой вечар,*
*я мушу*
*пайсці за табой*
*да канца.*
*Але й без таго*
*з'яўляецца разуменне:*
*знянацку,*
*як госць на парозе,*
*нагодай для радасці*
*альбо смутку —*
*няясна.*

***

*Паўзуць мурашы па сцяне —*
*цякуць знізу ўверх*
*маруднымі пырскамі*
*хворага сну.*
*Ліецца ў акно*
*пахам скошаных траў*
*летні дзень,*
*і мяккаць прасторы*
*стуляецца нада мною.*

***

*Адкуль*
*вецер прынёс*
*пах мора*
*ў каменных джунглях?*
*Адкуль*
*памяць ведае тое,*
*што будзе?*

**Вершы піша амаль ад нараджэння. Не памятае такога года ў сваім жыцці, калі б не было напісана ніводнага верша. Затое здараюцца дні, у якія пішацца адразу чатыры паэтычныя творы. «Паэзія — гэта ратавальнае кола, на якім можна пераплыць шэрасць, паўсядзённасць і абыякавасць, — упэўнена аўтарка. — Без яе майму жыццю бракавала б палові яскравых фарбаў».**

**Конкурс «ПЕРШАЦВЕТ»**



## Ніна ЛІСТОТА

## Рэквіем

*Яшчэ не развіднела,*
*А мы з табой ужо пахавалі,*
*Насыпалі па ўзгорачку,*
*Паставілі помнікі,*
*Заспявалі рэквіем.*

*Я сказала: «Сёння*
*Такі цудоўны дзень».*
*А слёзы пасыпаліся градам*
*На жоўты пясок*
*Нашай агульнай магілы.*

*Твае ванільныя вершы*
*І салодкія словы*
*Ператварыліся ў ружовыя аблокі.*
*Ты гукнуў: «Вось яны, лаві!»*
*Я не скранулася з месца.*

*Мы можам выпіць разам*
*На гэтых хаўтурах.*
*Можам абняцца так, па-сяброўску.*
*Не, абдымацца лепш не будзем.*
*Каб не ўваскрэсла.*

***

*На тым беразе зімы,*
*Ад цямна да цямна,*
*Будзе зязюць*
*Наша вогнішча.*

*Будуць дзеці смяяцца,*
*Як сто залівістых*
*Жаўрукоў. І спяваць,*
*І ляцець карагодам.*

*На тым беразе зімы*
*Я напраду нітак,*
*І вытку палатно,*
*І пашыю табе кашулю.*
*Ты не замерзнеш,*
*Закутаны хваляй лёну.*
*Я сагрэю.*
*Я буду гарэць з табой.*

***

*Другую ноч запар*
*Агонь знітоўвае*
*Нашыя цені.*

*Яны абдымаюцца,*
*Злучаюцца, зліваюцца*
*Ў адно.*
*Але не мы...*

*Цэлыя ночы*
*Ля вогнішча над Нёманам*
*Не маўчым.*

*І галінамі,*
*Шчыльна*
*Пераплятаюцца*
*Нашыя душы.*

***

*Хутка вецер зменіцца,*
*Верыцца.*
*Супакоіцца злая*
*Мяцеліца.*
*І нянасця віхура*
*Развеецца.*
*Пераменіцца,*
*Перамелецца.*

*Хутка скончыцца сцюжа*
*Гэтая.*
*І сады напоўняцца*
*Цветам.*
*І нальюцца нівы*
*Белыя,*
*І пасыплюцца яблыкі*
*Спелыя.*

*Гэтай ночы*
*Не вечна быць.*
*Не бясконца*
*Цябе ёй журыць.*
*І пагрозы*
*Не спыняць світання.*
*Дачакайся, дачушка,*
*Рання.*

***

*Адпусціць сябе.*
*Выдыхнуць, выплакаць.*
*Выплавіць згусткі болю*
*і выкінуць.*
*Вымавіць даўняе.*
*Выкрыкнуць страшнае.*
*Стаць для мінулых грахоў*
*недасяжнаю.*
*Вынайсці лепшае.*
*Вынырнуць — смешнаю.*
*Ціха прайсці*
*паласой узбярэжнаю.*
*Вылашчыць хваламі.*
*Выпесціць — марамі.*
*Выцерці смутак*
*шчаслівымі тварамі.*
*Вырасці, выпрастаць,*
*Выспець — і здарыцца.*
*Яшчэ не было,*
*ды ўжо — набліжаецца.*
*Вынайсці лепшага.*
*Вынырнуць — смешнаю.*
*Стаць назаўжды*
*тваёй непазбежнаю.*



Яўген ХВАЛЕЙ

# ФОТАЗДЫМАК

*Урывак з трыпціха*

## Памяці маці

*Белакрылыя чайкі —*
*Нібы ветразі ў небе,*
*Над азёрнай вадою,*
*Дзе на беразе я*
*Між бярозак стаю...*
*Раскашуе тут май,*
*А ў душы ў мяне — восень,*
*Бо гады-скалалазы*
*Усё паўзуць на гару:*
*Там, з вяршыні, цябе,*
*Маю мілую чайку,*
*Я скрозь дымку пабачу,*
*І захочацца стрэцца*
*З табою,*
*Як з юнай вясной...*

## Пралог

Уладзіслаў Кляновіч глядзеў на фотаздымак, які бачыў упершыню, — і не верыў сваім вачам. Тры сяброўкі — Мар'яна, Зося, Каця — зусім маладзенькія, у карычневых берэтах. Першая — яго маці. На ражку здымка стаяла дата: 1939. Значыць, Мар'яне — шаснаццаць, Зосі — пятнаццаць, Каці — чатырнаццаць. Калі нарадзіліся, Уладзіслаў добра ведаў. Дзе здымаліся? На картцы не пазначана. Але мяркуючы па берэтах, па адзенні, па завушніцах — «на ўсходніх крэсах», або, як казалі ў іх Бельках, «пры Польшчы». І хутчэй за ўсё ў Стоўбцах, сённяшнім райцэнтры, да якога ад Белькаў дзесяць вёрст.

Яго версію хутка пацвердзіла Галя, Каціна дачка, якая жыла ў нябліжкім горадзе. Гэта яна перадала копію фотаздымка брату Уладзіслава Міхасю. Ён жыў у матчынай хаце ў Бельках. Аднойчы пры сустрэчы Галя расказала Уладзіславу гісторыю фотаздымка...

...Фотаздымак доўга ляжаў у Каціным сямейным альбоме, які захоўваўся ў куфры яе маці Стэфкі. Доўга ў яго ніхто не заглядаў. Аднойчы Галя, прыехаўшы з горада, выпадкова натрапіла на альбом. Пачала разглядваць, адтуль выпаў гэты фотаздымак. Падышла да старэнькай маці, паказала. Сівая бабуля, пусціўшы слязу, пачала расповед...

— Мы — я, Мар'яна і Зося — з самага маленства былі лепшымі сяброўкамі. Хадзілі разам у польскую школу, якая была ў Кнотах. Ах, як нас там муштравалі настаўнікі Вайсовы, асаднікі! Недзе былі з-пад Варшавы... У школе было сем класаў. Рэдка хто іх заканчваў. Бо трэба было дапамагаць бацькам па гаспадарцы. Я і Мар'яна скончылі пяць, Зося — шэсць. Мар'яна — самая старэйшая з нас. У яе сям'і было восем дзяцей — па чацвёра ад кожнага з двух мужоў. Двое старэйшых — Іван і Надзя — паехалі жыць у Латвію, як тады казалі, у Лотву. Клікалі туды і Мар'яну. Аднойчы яна рашылася: «Паеду, а там будзе бачна...» І вось мы праводзім яе... Ідзём на станцыю ў Стоўбцы. Да цягніка заставалася добрая гадзіна. І не помню хто — мусіць, Зося, — прапанавала сфатаграфавацца разам на памяць. «Невядома, ці ўбачымся калі яшчэ...» У Стоўбцах здымаў польскі асаднік Бронюсь Зыгоскі. Запомніла яго: высокі лысы паляк. Гэта ён даў нам берэткі, кожнай. Як цяпер помню, карычневыя. Яны былі модныя тады. А ў нас іх не было. Вядома, бядноцце. Маці нашы ўсё шылі са зрэб'я. Зыгоскі доўга не думаў, як нас пасадзіць перад камерай. Калі мы з Зосяй малодшыя, значыць, павінны сядзець побач, плячо ў плячо. Мар'яну як старэйшую ён паставіў ззаду нас. Яна на галаву вышэй стаіць. Левую руку, во, бачыш, дачушка, паклала на маё пляча. Відаць, яна больш любіла мяне.

Ой, як мы расставаліся... Плакалі наўзрыд. Мар'яна не магла ўвайсці ў тамбур цягніка. Плакала, як і мы. Урэшце, калі колы крануліся, памахала нам рукой. Цягнік набіраў ход, а мы з Зосяй павярнуліся і пакрочылі назад, у бок нашых Белькаў... Па дарозе зноў плакалі: «Ах, Мар'янка, Мар'янка, які чакае цябе лёс там, у той Лотве?..»

Уладзіслаў выслухаў Галю, падзякаваў, і яны развіталіся. У матчынай хаце, прылегшы на канапу, ён пачаў успамінаць жыццё кожнай з тройкі... Балазе, яно да самай старасці сяброўак праходзіла на вачах Уладзіслава, з ягонага маленства і да сталасці. А пра дзявочую жытку мама расказала сама.

## Мар'яна

Яна нарадзілася праз два гады, калі палякі занялі Заходнюю Беларусь, у дваццаць трэцім. І ўсе свае шаснаццаць гадоў пражыла пад рэжымам Пілсудскага. Бацька Базыль быў плытагон, хадзіў на сплаў аж у Прусію, у Крулявец. Маці Наста глядзела вялікую сям'ю. Як яна ўпраўлялася адна, маленькая Мар'янка не магла зразумець. Асабліва тады, калі бацька прастудзіўся на плытах і хутка памёр. Дзеці, падросшы, пачалі думаць, як ім выкараскацца з такога цяжкога жыцця... Дасягнуўшы паўналетняга ўзросту, яны з'язджалі з Белькаў.

Уладзіслаў, які нарадзіўся ў пачатку вайны ў Латвіі, хлапчуком чуў ад мамы, чаму яны тут, далёка ад Беларусі. Мар'яна часта ўспамінала Белькі, размаўляла з сынам па-беларуску. А маленькага Уладзіка акалала латышская мова — на вуліцы сярод дзяцей, пры сустрэчах з мамінымі знаёмымі.

Мар'яну спачатку прытуліла старэйшая сястра Надзя, якая жыла ў Рызе. Яна выйшла замуж за латыша, карэннага рыжаніна. Але праз нейкі час у Надзі нарадзілася дачка, і Мар'яне з сястрой давялося развітацца. «Цесна, сама бачыш, двухпакаёвая кватэра...» — казала Надзя. І параіла звярнуцца да брата Івана, які працаваў на гаспадарцы ў латышскага баўэра, што знаходзілася на ўскраіне Юрмалы, непадалёк ад невялікага гарадка Тукумса. Ад Рыгі вёрст пяцьдзясят.

Іван сустрэў сястру насцярожана:

— Я сам толькі што ажаніўся з літоўкай Эміліяй, а ты хочаш да нас. Мой гаспадар адпусціў нам невялікі пакой...

— Брацік, ты ж ведаеш, адкуль я прыехала. Адтуль, адкуль і ты, з Беларусі. Дапамажы мне. Як зрабіла гэта Надзя... — прасіла Мар'яна.

— Надзя, Надзя... Чаго яна цябе выгнала? — гугнявіў Іван.

— Я сама пайшла, калі сястра нарадзіла дачку. Цесна ў іх, — ціха адказвала Мар'яна.

— Вось што я табе скажу: у майго гаспадара працуе парабкам Васіль, таксама з Беларусі, недзе з-пад Віцебска. Хочаш, пазнаёмлю? Добры хлопец. Яму гаспадар выдзеліў пакойчык. Жыве адзін. Глядзіш, і паберацеся... — палагаднеў брат.

І сапраўды, Мар'яна спадабалася Васілю, а Васіль — Мар'яне. Пачалі жыць разам. Гаспадар дазволіў, а Мар'яну зрабіў пакаёўкай у маёнтку. Яна прыбірала, чысціла, мыла зімой, а летам разам з Васілём працавала на полі. Праз год у іх нарадзіўся сынок, назвалі Уладзіславам. Васіль сам зрабіў гармонік, навучыўся на ім выцінаць няхітрыя мелодыі. У вячэрнія часіны пасля працы весяліў жонку і сына.

Але нядоўга цешыліся маладыя: грымнула вайна з немцамі, і Васіля забралі ў Чырвоную Армію, накіравалі на фронт. Латвія была ўжо ў складзе Савецкага Саюза. Што рабіць Мар'яне? Яе гаспадара, баўэра, раскулачылі Саветы яшчэ да вайны, у саракавым, на вачах Мар'яны адправілі ўсю яго сям'ю ў Сібір. Колькі было слёз! Астатніх латышоў зганялі ў калгас. У разгар вайны ў Мар'янін маленькі пакойчык падсялілі латышку, таксама з дзіцем. Жыццё было невыносным, і Мар'яна вырашыла вярнуцца дамоў, у Беларусь. Там, наводшыбе ад Белькаў, жыла яе малодшая сястра Аўгіння з пятнаццацігадовым братам Косцікам…

Аўгіння сустрэла сястру зычліва. Спадабаўся ёй і малы пляменнічак. «Выліты наш бацька Віктусь», — цешылася Аўгіння з Уладзіка. А сяброўкі Зося і Каця, калі даведаліся пра прыезд Мар'яны, тут жа прыбеглі ў хату, якая стаяла каля поплава, ля Чыстай крыніцы.

— Ой, сяброўачка, дарагая! Вярнулася, вярнулася... А мы ж думалі, што ніколі ўжо не ўбачымся, калі ўвайшла ты тады ў вагон... — наперабой шчабяталі Зося і Каця, абдымаючы сяброўку. — А гэта хто? — паказалі на Уладзіка.

— Мой сынок... — сціпла адказала Мар'яна. — Нарадзіўся там, у Лотве. Бацька Васіль — наш, беларус, недзе ваюе на фронце... Вось чаго я і ўцякла сюды да вас.

Мар'яна расказала, як яна жыла ў Прыбалтыцы, як пазнаёмілася з Васілём...

Вайна заканчвалася. А ў Бельках фашысты яшчэ наязджалі з-за мясцовых партызанаў. Хоць якія там былі партызаны… Кіркіз — так празвалі тутэйшага Сымона. Партызаніў у лясах за Нёманам, пра нейкія ягоныя подзвігі ў барацьбе з немцамі ніхто ніколі не чуў. Затое «праславіўся» ў рабаванні сваіх жа аднавяскоўцаў. «Карова наша вось-вось павінна была ацяліцца, — расказвала Мар'яна, — а ён цягне яе на воз, каб везці ў лес на мяса. Мы з Аўгінняй прасілі-малілі, а Сымон са сваімі партызанамі ўзвалілі карову на воз — і каню па хвасце...» Гэтым бяда для сясцёр не скончылася. Аднойчы Косцік недзе затрымаўся, і, калі пачало шарэць, накіраваўся дадому. Па дарозе пачуў нямецкую гаворку: нахлынулі ў вёску фашысты. Хлопец спалохаўся і пабег у кусты, што побліз могілак. Немцы заўважылі, падумалі, што гэта шаснуў у схованку партызан, застрачылі з аўтаматаў. Косціка прашпілі кулі, ён загінуў на месцы. Мар'яна і Аўгіння плакалі наўзрыд, несучы абмяклае цела брата. І нават ворагі пашкадавалі, што памыліліся, забілі падлетка.

Канец мая сорак пятага Мар'яна запомніла назаўсёды. Закончылася праклятая вайна, мужчыны вярталіся дамоў. У Бельку ўжо прыйшлі Мікола Трушко, Сцяпан Бутрым, Антось Каранькоў, а Васіля ўсё не было.

І вось аднойчы хтосьці ноччу пастукаў у шыбіну. Глянула Мар'яна ў акно — і ледзь не абамлела: у святле поўні пазнала Васіля. Той стаяў нібыта здань. Пра хату, у якой жыла Аўгіння, Мар'яна расказвала Васілю яшчэ ў Тукумсе. Запомніў: хата наводшыбе, ля поплава, дзе бурліць крыніца.

— Васілёк, мілы, — кінулася на шыю Мар'яна, калі муж увайшоў у хату. — Чаму ж ты так доўга не ехаў?

— А я ж цябе з Уладзікам у Лотве шукаў. Думаў, што вы там... У Тукумсе мне сказалі, што паехалі на радзіму, у Беларусь...

— Майго брата Івана там не бачыў?

— Сказалі, з фронту не прыходзіў...

— Можа, не дай бог, забілі...

— Прыйдзе, як і я, — супакоіў жонку Васіль.— Во, падарункі вам з Уладзікам прывёз з Германіі, — дастаў з паходнага мяшка прыгожую хустку, цацкі — машынкі, танкі. — А гэта той гармонік, які я зрабіў сам, — раскруціў тканіну. — Ляжаў, чакаў мяне ў Тукумсе. Вы ж з Уладзікам яго не забралі...

— Хіба мы маглі ўсё забраць? Ледзь самі ўцяклі, ехалі пад бамбёжкамі...

Ішоў час, беглі дні, месяцы. Аддалялася вайна, Васіль і Мар'яна ўступілі ў калгас, які толькі арганізаваўся. Мар'яна працавала паляводам, Васіль — у будаўнічай брыгадзе. Быў ён і цясляр, і столяр, і пячнік. Падвучыўся ў Латвіі-Лотве.

А тут пачалі суцэльна зносіць хутары. Працы Васілю было шмат. Дапамагаў хутаранам перавозіць хаты ў вёску, «перасыпаць» іх, як тады казалі. Ды не ўсе сцхацелі ехаць з хутара ў вёску. Суседзі Юркіны, Лахаўкі, Палускі вырашылі пакіравацца ў былую Усходнюю Прусію, сённяшнюю Калінінградскую вобласць. Там жыла ўжо сястра Ганны Юркінай Маня з мужам Іванам. Яны і спакусілі выехаць на багатыя, як тады казалі, нямецкія землі. Васіль іграў на гармоніку за развітальным сталом у маёвым садзе Юркіных.

— Едзем, едзем, Вася... Не пашкадуеш, — угаворвалі суседзі.

— Не. Я быў там у вайну. Браў Кёнігсберг. Хапіла мне тады гэтай праклятай зямлі... — пасля выпітай чаркі са злосцю казаў Васіль. — Дый Мар'яна не хоча ехаць у тую далечыню... Дзеці яшчэ малыя. І сама ўжо наездзілася... — Памаўчаў. — А вам я зараз зайграю «Развітанне славянкі». Няхай шчасціць вам там... — І палілася мелодыя, ад якой ва ўсіх зашчымела душа.

З гармонікам Васіль не расставаўся. Мясцовыя кавалеры запрашалі яго іграць на нядзельных вечарынках. Ён праслыў першым гарманістам у ваколіцы. Звычайна збіраліся ў Собранавай хаце, якая стаяла зводдаль ад вёскі, каля глыбокага яра. Ды плацілі Васілю не грашыма, а самагонам. І Мар'яна пачала заўважаць, што Васіль стаў співацца. Прыходзіў з вечарынкі пад добрым хмелем, часам і без гармоніка. Пад п'яную руку ўсчыняў сварку.

— Сынку, — казала Мар'яна Уладзіку, — на вечарынках ты павінен быць заўсёды побач з бацькам. Пры табе ён не будзе піць...

Гэта вечарынка была апошняй, калі Уладзік вёў п'янага бацьку дамоў праз глыбокі яр, несучы яшчэ і гармонік. Васіль узяў сябе ў рукі. Неўзабаве, пасля траіх сыноў, у іх нарадзілася дачушка.

Жыць далей у хаце Аўгінні сям'і Мар'яны і Васіля не было як: цесна. Калгас выпісаў крыху новага дрэва, купілі старую хутарскую хату, і Васіль яе адбудоўваў. Дапамагалі суседзі, Мар'яна і Уладзіслаў. Усяліліся ў новы дом недзе праз чатыры гады. Здавалася б, жыві на радасць... Але жыццё непрадказальнае.

Мар'яна хадзіла працаваць на брыгаду і зімой, і летам. Аднойчы ў люты мароз яна цэлы дзень накідвала тарфакрошку на трактарны прычэп. Апранута была лёгка, моцна прастудзілася і злегла. Доўга не падымалася, кашляла. Васіль павёз жонку ў бальніцу. Там сказалі: пачалі развівацца сухоты.

...Раз на тыдзень Васіль вазіў Мар'яну ў бальніцу на працэдуры. Гэтак цягнулася чатыры гады. Мар'яна пайшла на папраўку, і ёй далі пуцёўку ў санаторый у Воўкавічах, што непадалёк ад Мінска. Гэта было зімой.

Ішлі гады. Мар'яна вылечылася, працавала ў паляводчай брыгадзе. Васіль — усё на той жа льносушылцы. Невыказная радасць была ў бацькоў, калі Уладзіслаў паспяхова закончыў сярэднюю школу ў Міцічах і паступіў у політэхнічны інстытут у Мінску. Ён стаў першым студэнтам у Бельках.

...Хлопец ужо заканчваў пяты курс інстытута, калі за дзень да Новага года ў яго інтэрнацкі пакой прыйшла тэлеграма: памёр бацька, інсульт…

Мар'яна пражыла без мужа роўна сорак гадоў. Дзеці павырасталі, разляцеліся хто куды. Міхась пасля войска застаўся працаваць на мотавелазаводзе ў Мінску, Валя выйшла замуж і з'ехала ў Фаніпаль, Уладзіслаў пасля інстытута апынуўся ў Баранавічах. І толькі Віктар застаўся з маці — працаваў у мясцовым калгасе трактарыстам.

# Тактыльнае ўспрыманне

**На працягу двух гадоў у Мінску праект «ЗаЧытанне», праект «MIBIЯ» і Навуковая бібліятэка БНТУ рэалізуюць агульную праграму па стварэнні спецыялізаваных (тактыльных) кніг для дзяцей са слабым зрокам. На пачатку года арганізатары прадставілі першую тактыльную дзіцячую кнігу «Гісторыя пра маленькага труса» Каці Талстой. Менавіта з гэтай кнігай і пачалі праводзіць інклюзіўныя заняткі на базе 188-й школы для дзяцей з асаблівасцямі зроку. Пра нюансы і дэталі стварэння тактыльных кніг, пра наступны праект і магчымасці пашырэння вытворчасці расказала адзін з аўтараў праекта «ЗаЧытанне» Вольга Воўк.**



**— Вольга, як узнікла ідэя займацца стварэннем кніг для дзяцей з асаблівасцямі зроку?**

— У нас сумесны праект з прадстаўнікамі праграмы «MIBIЯ» — калектывам, які займаецца архітэктурай для людзей з праблемамі зроку, стварае макеты будынкаў невялікага памеру. Яны робяць гэта, каб людзі маглі дакрануцца і адчуць, што сабой уяўляе палац, царква альбо тая ж ратуша. Нас зацікавіў іх праект, і мы вырашылі папрацаваць па такім жа прынцыпе, толькі выбралі сучасную дзіцячую літаратуру.

Прадстаўнік з «MIBIЯ» Вольга Салановіч якраз стала майстрам нашай першай тактыльнай кнігі расійскай пісьменніцы Каці Талстой «Гісторыя пра маленькага труса». Менавіта яна распрацоўвала макет кожнай старонкі для кнігі, падбірала матэрыялы, адшывала першы асобнік і потым праводзіла майстар-клас, дзе добраахвотнікі, зацікаўленыя стварэннем такіх кніг, спрабавалі самі адшываць старонкі.

**— З якімі нюансамі сутыкаецеся ў працы над стварэннем тактыльных кніжак?**

— Нюансаў шмат, але раскажу толькі пра галоўныя. Мы вельмі доўга падбіраем матэрыялы. У тактыльных кніг ёсць свае правілы. Асноўная складанасць праекта ў тым, што мы робім менавіта сучасныя тактыльныя кнігі. Калі пачыналі працу над праектам, задаліся мэтай не адыходзіць ад арыгінала: паказаць не толькі тэкст, але і сучасную манеру ілюстрацыі. Дзеці з асаблівасцямі зроку многія рэчы ўспрымаюць па-іншаму. Як намалюе дом чалавек з добрым зрокам? Напэўна, скрынка, дах, труба, а сляпы намалюе дом з ручкай. Ён жа прыйдзе дадому і возьмецца за ручку, гэта для яго сімвал дома. Такія рэчы нам распавядалі спецыялісты з 188-й школы Мінска, якія працуюць з дзецьмі з асаблівасцямі зроку. Увогуле, перад тым, як нешта адлюстраваць на малюнку, трэба скарыстацца меркаваннем дзяцей. Іх успрыманне прадбачыць складана.

Старонкі можам перарабляць і па тры разы. Кнігу нельга лічыць добрай, пакуль дзіця не прамацае. Можам адшыць мядзведзя, але калі дзіця не зможа гэтага зразумець, то і сэнсу няма. Напрыклад, дзеці не разумеюць накладання аб'екта на аб'ект: лапы, якія складзеныя на жываце, — дрэнны варыянт. Нельга насы жывёл рабіць гузікамі — лепш кавалачак скуры. Ёсць пытанні і з вывай чалавека: нават калі ён намаляваны ў профіль, усё роўна павінен быць з двума вачыма. І толькі наша праблема, як мы зможам гэта ажыццявіць. У дзяцей жа свае правілы.

Напрыклад, для кнігі «Маленькі Дзед Мароз» мы доўга выбіралі снег, дакладней, тканіну для снегу. Абышлі ўсе крамы і спыніліся на сінтэпоне. Першапачаткова баяліся, што ён хутка дэфармуецца, але аказалася, што тканіна выдатна чысціцца. Далей прадумвалі, як зрабіць так, каб пры дакрананні да тканіны яна ўспрымалася як сапраўдны снег. У выніку пад яе падклалі кавалачак цэлафанавага пакета, і гук атрымаўся.

**— Колькі патрабуецца часу для таго, каб стварыць тактыльную кнігу?**

— На першую нам спатрэбіўся год, на другую — пакуль складана сказаць. Уся работа раскідана: хтосьці выразае старонку з паперы, хтосьці пераносіць на тканіну, хтосьці прымацоўвае асобныя элементы. Але ж справа хутчэй не ў нас, зноў жа, кніга робіцца доўга таму, што залежыць ад думкі дзіцяці.



**— Над якой кнігай працуеце цяпер?**

— Выбралі кнігу «Маленькі Дзед Мароз» фінскай пісьменніцы Ану Штонэр. Гэтую кніжачку я называю «кнігай пра іншых». Казка пра вялікую сям'ю дзядоў марозаў, у якой жыве адзін маленькі Дзед Мароз, якому кожны год не давяраюць важную справу — раздачу падарункаў. Ён з году ў год рыхтуецца, робіць падарункі, але ў выніку кожны раз атрымлівае адмову. Гэтая кніга будзе цікавай дзеткам з асаблівасцямі развіцця. Яна добра апісвае сітуацыю, як адчувае сябе дзіця ў свеце дарослых, і адлюстроўвае жыццё чалавека «іншага» па думках, ладзе жыцця ў асяроддзі, зноў жа, «іншых» людзей.

У большасці сучасных кніжак манера малявання вельмі цікавая. І каб дзіця разумела, што адбываецца ў кніжцы, трэба яшчэ зрабіць галоўнага героя прадметным. У нас, напрыклад, ёсць для першай кнігі трус Мася — цацка, з дапамогай якой дзеткі настройваюцца на думку і маюць уяўленне, пра каго будуць чытаць. З прадметным героем дзецям прасцей успрымаць тэкст. Дзед Мароз у нас таксама зроблены.

**— Вы працуеце з сучаснай рускай, замежнай літаратурай. Але чаму не спрабавалі звярнуцца да беларускіх аўтараў?**

— Па-першае, у нашай краіне вельмі складана атрымаць правы для таго, каб зрабіць кніжку іншага аўтара ў тактыльным варыянце. А па-другое, на жаль, не існуе беларускага Брайля — шрыфту, з дапамогай якога чытаюць дзеці з асаблівасцямі зроку.

Мы ў цэлым першыя, хто займаецца тактыльнымі сучаснымі кнігамі. Звычайна робяць народныя казкі, на якія ўжо не патрэбныя правы. Вядома, дзецям з асаблівасцямі зроку важна проста чытаць пальцам, а новая гэта гісторыя або старая, ролі не іграе. Але нам здаецца, што сучасная літаратура ў любым выпадку цікавейшая з пункту гледжання навізны ідэй. Гэта асабістая пазіцыя, у далейшым таксама будзем трымаць курс на сучасны літаратурны рынак.

**— А як набіваеце шрыфт Брайля ў сваіх кнігах?**

— Ёсць спецыяльныя прынтары, якія набіваюць шрыфт Брайля. Але асаблівасць у тым, што прынтар набірае літары толькі на паперы. У выніку кропачкі на ёй збіваюцца і знікаюць за тры-чатыры разы выкарыстання тэксту. Для нас гэта не варыянт. Таму мы шрыфт набіваем уручную. Да нас прыходзіць дзяўчына, якая не бачыць. Яна робіць кропкі на плёнцы для ламінавання дакументаў.

**— Як дзеткі працуюць з вашымі кнігамі, як адчуваюць іх? Ці бачыце зацікаўленасць у інклюзіўных занятках?**

— Некаторыя адразу добра чытаюць, некаторым патрабуецца час, каб разабрацца ў дэталях. Таксама ёсць пытанні з увагай: часам дзеці вельмі хутка канцэнтруюцца, а часам рассеяныя. Бывае, дзіця, прачытаўшы слова, не зразумее яго, пачынае разбірацца, перачытваць зноў. А ёсць і такія, якія перачытваць не будуць. Адны з задавальненнем разглядаюць, прамацваюць, задаюць пытанні, іншых трэба весці, указваць, куды ставіць пальцы, даваць па тэксце падказкі.

Паколькі такія кнігі незвычайныя для Беларусі, то многім дзеткам проста цікава пагартаць, памацаць. Але нам важна, каб малыя змаглі сабраць усе старонкі ў адну гісторыю. Мы знаходзім кнігі, у якіх карцінкі дапаўняюць тэкст і, як правіла, адна частка кнігі — гэта ілюстрацыі, іншая — гісторыя. На інклюзіўных занятках мы зразумелі, што для дзяцей са слабым зрокам чытаць — сур'ёзная, складаная праца над сабой. Ім даводзіцца напружвацца, каб прадумаць нюансы малюнкаў.



**— На пачатку размовы вы казалі пра людзей, якія на добраахвотнай аснове бяруць удзел у стварэнні кніжак. Як вы іх знаходзіце? Ці шмат у наш час энтузіястаў?**

— Мы даём афішу на розных сайтах. І заўсёды прыходзіць досыць вялікая колькасць добраахвотнікаў. Напрыклад, першую кнігу прыходзілі адшываць сем'і з дзецьмі. Атрымліваўся тандэм: мама шые што-небудзь вялікае, а дзіця робіць рэчы простыя і ведае, што дапамагае. Другую кніжачку сем'яў з дзецьмі шые менш, але затое з'явіліся людзі, якія шыюць прафесійна. Паколькі другая кніга складаней за першую па ілюстрацыях, то нам пашанцавала. Цяпер працу мы не перарабляем, як раней, самі, а можам аддаць спецыялізаванаму чалавеку на дом.

**— Вольга, ці праўда, што займацца падобнага роду праектамі — досыць затратная справа?**

— Год таму мы выйгралі «*Social Weekend*» — конкурс сацыяльных праектаў Беларусі. Прадставілі кнігу «Маленькі Дзед Мароз» і выйгралі дзесяць мільёнаў. Гэтыя грошы ідуць толькі на матэрыял. Але ж мы рады і таму, што ёсць хоць бы базавыя сродкі на рэалізацыю праекта. З першай кнігай бывала так: калі нам не хапала пэўных матэрыялаў, складваліся і куплялі за ўласныя сродкі. У цэлым кожны, хто бярэ ўдзел у праекце, разумее, што працуе на добраахвотным пачатку.

Ёсць нюансы з набыццём матэрыялаў для кніг, бо яны шмат каштуюць. Нашы кнігі з тканіны, і трэба, каб іх можна было мыць. З-за частага выкарыстання кніжкі хутка становяцца непрыдатнымі, іх патрэбна чысціць. Таму для кніг набываем экалагічна чыстыя матэрыялы. Дарэчы, для стварэння тактыльных кніг нельга выкарыстоўваць клей, вострыя прадметы і бліскучыя элементы.

Па досведзе нават міжнародных праектаў, звязаных з кнігамі для людзей са слабым зрокам, магу сказаць, што выпускаць такія кнігі ў вялікім аб'ёме вельмі дорага. Адна кніга каштуе каля 300 — 400 долараў, і гэта толькі матэрыял. Кожная старонка — шэдэўр. Такія кнігі немагчыма паставіць на паток. Гэта вельмі працаёмкі працэс, які ніколі не акупіцца, і першапачаткова сацыяльная справа зацікаўленых людзей.

**— Ці будзеце перадаваць тактыльныя кнігі ў бібліятэкі або спецыяльныя школы?**

— Мы ствараем кнігі для інклюзіўных заняткаў, і наша мэта — самім займацца з дзецьмі, глядзець, як нашы кнігі ўплываюць на працэсы развіцця. Тым больш у бібліятэках яны будуць стаяць на паліцах (паколькі кнігі будуць прадстаўлены ў малой колькасці), а нам важна, каб кнігі працавалі. Калі знойдуцца тыфлапедагогі (спецыялісты, якія працуюць з дзецьмі з асаблівасцямі развіцця), якія змогуць праводзіць заняткі часцей за нас, то будзем прадастаўляць ім кнігі і самі вучыцца мець зносіны з дзецьмі больш прафесійна.

**Вікторыя АСКЕРА**

Лёсы старадрукаў

# РУКОЮ ГРАВЁРА



Застаўка. Трыёдзь (1589).

## Як выпраўлялі памылкі ў XVI стагоддзі

**Імёны першадрукароў Францыска Скарыны, Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца заўсёды на слыху, але пра тых, хто працягнуў іх справу, ведаюць, напэўна, не ўсе. Друкар, гравёр, аўтар пасляслоўяў да старадрукаў Андронік Нявежа жыў у другой палове XVI — пачатку XVII стст. І быў, як сведчаць крыніцы, вучнем Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца.**

Імя Андроніка Нявежы ўзгадваецца другім побач з імем Нікіфара Тарасава на маскоўскім выданні Псалтыра, які быў надрукаваны ў 1568 г., усяго толькі праз два гады, як з Масквы з'ехалі першадрукары. Наступны раз імя Андроніка Нявежы згадваецца ў дачыненні да Псалтыра, надрукаванага ў 1577 г. у рэзідэнцыі Івана IV, Аляксандраўскай слабадзе. Далей праца пайшла больш актыўна: у 1589 г. выйшла з друку Трыёдзь посная, а потым сем царкоўна-богаслужэбных кніг на працягу трынаццаці гадоў.

Друкарская дзейнасць Андроніка Нявежы была доўгай і плённай. Больш за тое, з яго імем звязваюць узнікненне сямейнай дынастыі кніжнікаў. Сын Іван пачаў працаваць пад кіраўніцтвам бацькі: першую кнігу, Часоўнік 1598 г., яны выпусцілі разам. Самастойна Іван надрукаваў яшчэ чатыры кнігі, але лёс майстра пасля спусташэння Друкарскага двара ў 1611 г. невядомы. Крыху пазней справу Івана працягнуў яго брат Аляксей Андронікавіч. Вядома, што ў 1614 г. пад яго кіраўніцтвам працавала 16 чалавек.

У калекцыі кірылічных выданняў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі захоўваецца некалькі выданняў Андроніка Цімафеева Нявежы. У тым ліку кніга, якая аднавіла маскоўскае кнігадрукаванне пасля дваццацігадовага перапынку, — Трыёдзь посная.

Нягледзячы на здольнасці майстра, кнігавыдавецкая справа тых часоў яшчэ не была бездакорнай. На падрыхтоўку і



Ініцыялы. Трыёдзь (1589).

выданне Трыёдзі ў 470 аркушаў спатрэбілася два гады — значыць, справа была няпростай. Праўкі памылак у тэксце, зробленыя ў друкарні, якія даволі часта сустракаюцца ў асобніку, падмацоўваюць гэтае меркаванне.

Друкарскія праўкі былі нярэдкія ў XVI стагоддзі. Пры выяўленні памылак яшчэ ў друкарні праўкі ўносілі самі друкары або тыя, хто ім дапамагаў. Было выпрацавана некалькі спосабаў выпраўлення: друкавалі фарбай адразу паверх хібаў, забельвалі памылкі бяліламі з наступнымі рукапіснымі праўкамі, надпісвалі прапушчаныя літары і склады над друкаваным тэкстам... Калі ж на адным аркушы было шмат хібаў, яго вырывалі, пакідаючы невялікі фальц, да якога потым прыклейвалі наноў надрукаваны аркуш.

На старонках асобніка Трыёдзі поснай 1589 г. з фондаў ЦНБ НАН Беларусі сустракаюцца выпраўленні рознага характару, у тым ліку ўклейванне аркушаў. Асаблівай увагі заслугоўваюць аркушы з рукапісным тэкстам, якія адпавядаюць адсутным друкаваным. Тэкст напісаны тым самым почыркам і чарнілам, што і надрадковыя праўкі — такім чынам, устаўныя аркушы адносяцца да таго ж перыяду, што і выданне, і з'явіліся, відавочна, у друкарні. Магчыма, падчас зборкі асобніка выявілася нястача двайнога аркуша, і адсутны тэкст быў перапісаны ад рукі.

Чаму тэкст аднавілі рукапісным спосабам, а не друкаванымі аркушамі, можна толькі здагадвацца. Магчыма, не было дастаткова часу, каб набраць тэкст прапушчаных аркушаў, або чалавек, які адказваў за фальцоўку асобніка, выпадкова пашкодзіў надрукаваныя аркушы і вырашыў не прыцягваць залішняй увагі і самастойна выправіць становішча. У любым выпадку сёння гэтая асаблівасць уяўляецца нам як адметная рыса, якая надае дадатковую каштоўнасць асобніку. А меркаванні, што ўзнікаюць на гэты конт, надаюць яму пэўную загадкавасць.

Трыёдзь посная, як і астатнія выданні Андроніка Нявежы, яскрава дэманструе яго талент гравёра. Працуючы над графікай, друкар шмат запазычыў у сваіх настаўнікаў, але разам з тым выпрацаваў уласны стыль, які меў свае перавагі. Андронік Нявежа адзіны з майстроў старога маскоўскага друку, хто дапрацоўваў, відазмяняў і перапрацоўваў свае гравюры. У выніку яны часам губляюць у дэкаратыўных упрыгожваннях, набываюць амаль схематычны выгляд, але пры гэтым нібыта раствараюцца ў тэксце, зліваюцца з ім у адзінае цэлае, не адцягваючы ўвагу чытача.

Найбольшага росквіту талент Нявежы як гравёра дасягнуў падчас працы над Апосталам 1597 г. Гэта кніга лічыцца шэдэўрам яго кнігавыдавецкай дзейнасці. Выданне — з'ява надзвычайная, бо, акрамя яго безумоўных мастацкіх вартасцей, тут з'яўляецца першая руская гравюра, падпісаная мастаком-аўтарам: перад пачаткам асноўнага тэксту змешчана гравюра з выявай апостала Лукі за подпісам майстра. Подпіс зроблены яшчэ няўмела: радкі «Андроник Тимофеев» адціснуты люстэркава, але прозвішча «Невежа» — правільна. Да таго ж упершыню ў рускай кнігавыдавецкай дзейнасці ў выданні пазначаны тыраж: «а напечатано книг сих вкупе тысяча пятьдесят». Такія звесткі маюць вялікую каштоўнасць для даследчыкаў. Асобнік гэтай знакамітай кнігі таксама захоўваецца ў фондах ЦНБ НАН Беларусі.

**Вольга ГУБАНАВА**

# УРАЖАННІ, ПАДМАЦАВАНЫЯ ПРЭМІЯМІ

## Увага да нобелеўскага лаўрэата ў Кітаі

**Гэтымі днямі ў Кітаі ў якасці ганаровага госця Беларусь удзельнічае ў еўразійскай выстаўцы ЭКСПА. Вядучыя ведамствы краіны, у тым ліку Міністэрства інфармацыі, прадстаўляюць свае здабыткі. Ва Урумчы на беларускім стэндзе разгорнута і кніжная выстаўка. А некаторы час назад у Кітаі пабывала беларуская пісьменніца, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Святлана Алексіевіч.**



Творчы вечар пісьменніцы прайшоў і ў беларускай амбасадзе ў Кітаі. Святлану Алексіевіч вітаў Паўнамоцны і Надзвычайны Пасол Рэспублікі Беларусь у КНР доктар эканамічных навук Кірыл Валянцінавіч Руды. На сустрэчу з пісьменніцай прыйшлі прадстаўнікі беларускіх прадпрыемстваў, дыпламаты, кітайскія даследчыкі творчасці нашай зямлячкі.

У Кітаі выдадзены ўсе кнігі Святланы Алексіевіч. Яшчэ на пачатку 1990-х — «Цынкавыя хлопчыкі», «У вайны не жаночы твар». Крыху пазней — «Чарнобыльская малітва». Толькі што — «Час сэканд хэнд».

— Мяне здзівіла, уразіла тое, наколькі здольная беларуская пісьменніца зазіраць за даляглядзы, кіравацца ў творчасці галоўнымі сутнаснымі прыярытэтамі, — падзялілася развагамі пра сустрэчу, знаёмства са Святланай Алексіевіч кітайская даследчыца яе творчасці — аспірантка 2-га Пекінскага лінгвістычнага ўніверсітэта спадарыня Чжан Бяньгэ. — Прыемна было бачыць, з якім піетэтам удзельнікі вечара слухалі знакамітую пісьменніцу. Я ўжо напісала першы артыкул пра творчасць аўтара «Чарнобыльскай малітвы» — мо найболей уражлівага для мяне твора Святланы Алексіевіч. Рада, што нашы кітайскія перакладчыкі такія ўважлівыя да творчасці беларускай пісьменніцы. Спадзяюся, што чытацкая прастора яе ў Кітаі будзе і надалей толькі шырыцца.

Вартанагадаць,штосёлетанашасуайчынніцаатрымала тры прэстыжныя кітайскія прэміі. Такая адзнака вельмі красамоўная і сведчыць пра вялікую цікавасць у Кітаі да творчасці новага лаўрэата Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры.

З просьбай адгукнуцца на падзею я пазваніў перакладчыку Гаа Ману. Ён перакладаў спавядальную прозу С. Алексіевіч яшчэ больш як чвэрць стагоддзя назад. І вось што пачуў у адказ:

— Рады, што Святлана ізноў наведала Кітай. Мы такі народ, што любім жывыя, непасрэдныя ўражанні, лічым іх пэўнымі сімваламі. Мяркую, што тыражы кніг Святланы Алексіевіч будуць у Кітаі толькі расці. Удзячны лёсу, што некалі, працуючы галоўным рэдактарам часопіса «Сусветная літаратура», пазнаёміўся са Святланай Аляксандраўнай, што спрычыніўся да прадстаўлення яе шчырай прозы ў нашай краіне.

На сустрэчы ў беларускай амбасадзе прысутнічала і спадарыня Чжан Хуэйцінь, доктар філалагічных навук, дэкан факультэта рускай філалогіі 2-га Пекінскага лінгвістычнага ўніверсітэта. Вось што яна выказала пасля знаёмства з беларускай пісьменніцай: «Мне здаецца, што візіт Святланы Алексіевіч у Кітай — знакавая падзея для развіцця беларуска-кітайскіх літаратурных адносін. Я прыйшла ў пасольства разам з калегамі, якія даследуюць творчасць беларускай пісьменніцы, пішуць артыкулы пра яе кнігі, рыхтуюць дысертацыйныя даследаванні. Прыемна, што робяць яны гэта, маючы магчымасць зносіцца з героем сваіх даследаванняў. Буду раіць сваім студэнтам прачытаць усе кнігі Святланы Алексіевіч».

**Мікола БЕРЛЕЖ,**
***Кітай***

# ЛЕПШЫЯ ВЫСТАЎКІ ВЕРАСНЯ: КУДЫ ВАРТА СХАДЗІЦЬ?

**Выставачнае жыццё актывізуецца. Якія мастацкія падзеі (акрамя тых, пра што мы ўжо распавялі) варта не абмінуць у верасні? Чытайце ў арт-аглядзе «ЛіМа»:**

## ВІЦЕБСКІ ЦЭНТР СУЧАСНАГА МАСТАЦТВА

1 **Што:** юбілейная выстаўка Аляксандра Салаўёва. Мастаку сёлета 90, і яго творчасць сакавітая і напоўненая думкамі. Добра ведаюць яе тыя, хто цікавіцца тэатрам (у якасці галоўнага мастака Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ён стварыў дэкарацыі да больш як



васьмі соцень спектакляў), але і аматары мастацтва, якое называюць абстрактным. Мастацкія творы зрабілі Аляксандра Салаўёва вядомым не толькі ў Беларусі, але і ў розных краінах Еўропы. Ёсць магчымасць паглядзець жывапіс, графіку і сцэнаграфічныя работы.

**Дзеля чаго?** Карціны Салаўёва дазваляюць рассунуць прасторы — не толькі рэальнасці, але і свядомасці. Па-першае, таму што фіксуе Аляксандр Салаўёў рэальнасць так, як яе адчувае сам. І калі паспрабаваць уявіць адчуванні, атрымаецца мастацтва Салаўёва. Напрыклад, калі ў чалавека чорны настрой з уключэннем сіняга ці белага альбо сон (ён жа існуе насамрэч, толькі выяўляе іншую рэальнасць) з напластаваннямі колераў, то як гэта яшчэ паказаць? Лепшы сродак спасцігнуць яго творы — інтуіцыя. Яна патлумачыць выбар колераў, раскрые сутнасць вобразаў праз эмоцыі, зачэпіць загадкамі, каб далучыць розум да спасціжэння чароўнай сутнасці мастацтва.

**Чаму ісці?** Адчуць сябе жывым чалавекам — са складаным характарам ці няпростым жыццём, загадкавымі снамі ці яркай явай. Чалавекам, якому хочацца выйсці ў іншы свет, зазірнуць углыб падсвядомасці і ўзняцца да новых вышынь, дзе магчыма ўсё…

## АРТ-ПРАСТОРА «ВЕРХ»

2 **Што:** Выстаўка Алеся Родзіма будзе даспадобы тым, хто неабыякавы да экснтрычнага мастацтва. Паколькі аўтар з'яўляўся адным з рэзідэнтаў берлінскага арт-цэнтра «Тахелес» і неаднойчы выстаўляўся на яго пляцоўках, куды з'язджаліся мастацтвазнаўцы і аматары мастацтва амаль з усяго свету, творчасць Андрэя Родзіма змагла выйсці за межы беларускай прасторы і заваявала прызнанне.

**Дзеля чаго?** Алесь Родзім абсалютна сканцэнтраваны на мастацкай ідэі. У яго ёсць асабістая сімволіка, для разумення якой патрэбна ўвага, канцэнтрацыя на дробязях. На выстаўцы не атрымаецца проста натхніцца творчасцю — трэба разважаць. Бо работы складаюцца з бязмежнай колькасці розных дэталяў, якія быццам уяўныя пазлы і іх трэба скласці ў адну агульную думку. Яны пра ўзаемаадносіны людзей, пра суіснаванне жаночага і мужчынскага і пра тое, як наваколле і яго няспынныя працэсы ўплываюць на жыццё грамадства.



**Чаму ісці?** На Беларусі Алесь Родзім выстаўляецца зрэдку. Таму магчымасць убачыць яго філасофска-дэталёвыя работы ў арт-хаусным інтэр'еры трэба скарыстаць абавязкова. Пад музычнае афармленне ў стылі «транс» тут адрываешся ад рэальнасці і паглыбляешся ў аналіз глыбінны, эмацыянальна-ўрушальны творчасці мастака.

## МЕМАРЫЯЛЬНЫ МУЗЕЙ-МАЙСТЭРНЯ ЗАІРА АЗГУРА

3 **Што:** «Адзін і многія. Частка другая. Рэканструкцыя героя». Канстанцін Селіханаў працягвае праект, у якім ён не толькі скульптар, але і мастак-канцэптуаліст. Праблема асэнсавання часу і герояў, якіх ён спараджае, вырашаецца шляхам інсталяцыі, што пачынаецца яшчэ на ўваходзе ў музей і ахоплівае ўсю яго тэрыторыю.



**Дзеля чаго?** Некалькі частак праекта адна за другой прапануюць прайсці скрозь эпохі і зразумець: што нам пакінулі папярэднікі і што трэба рабіць самім. Напачатку, відаць, — рамонт. Сітуацыя рамонту абазначана адразу: фанерным, часовым, калідорам, праход па якім суправаджаецца непрыемным гукам актыўных рамонтных работ (гукарэжысёр Яўген Рагозін). Паставіўшы наведвальнікаў ад пачатку ў сітуацыю рэканструкцыі, аўтар паступова падводзіць да думкі: каму рэканструкцыя трэба і што ёй падлягае? Пасылка (з мінулага) дае разуменне, што спадзявацца трэба на сябе. Як гэта рабілі асобы мінулага, якія ў нашым разуменні сталі героямі, — і мы іх бачым. З ідэй мінулага, магчыма, варта браць надалей тыя, што заклікаюць да самаўдасканалення. (Як тут не ўзгадаць Ніцшэ, тым больш што гэтая асоба забяспечвае сувязь паміж другой і першай часткай праекта, якую Селіханаў ажыццявіў у 2012 годзе.) Кожная эпоха нараджала сваіх герояў, якія давалі чалавецтву штуршок да развіцця. І самы час уявіць, што за герой, да якога мы ў выніку падыходзім…

**Чаму ісці?** Канцэптуальных праектаў у нас не вельмі шмат. Мастацтва думкі (якую трэба сычытаць) дазваляе ўдасканальваць сябе, каб не ператварыцца ў шараговага героя… з шэрай масы.

## ПАЛАЦ МАСТАЦТВАЎ

4 **Што:** Выстаўка памяці мастака з Гомельшчыны Яўгена Каробушкіна — своеасаблівы мастацкі погляд на паўсядзённасць. Задумайцеся, колькі часу мы праводзім у кватэры альбо на лецішчы. Усе рэчы, якія нас атачаюць, набываюць побытавы характар.

**Дзеля чаго?** Экспазіцыю складаюць разнапланавыя работы: ёсць партрэты, пейзажы. Але галоўнае месца адводзіцца нацюрморту. Аўтар шукае ў ім рамантыку і паэтычнасць. Ён эксперыментуе з кантрастамі. Цікава сачыць за тым, як пераліваюцца колеры: палотны становяцца хамелеонамі, мяняюць колер у залежнасці ад вугла агляду.



*«Нацюрморт з гадзіннікам», 2002 — 2007 г.*

**Чаму ісці?** Яўген Каробушкін разбурае стэрэатыпы і даказвае, што побач толькі цэннае, і якраз у гэтым утульнасць і асабісты камфорт. Паколькі пяшчотная любоў да Гомельшчыны — важкі складнік мастацкага шляху Яўгена Каробушкіна, то на выстаўцы людзі, якія, магчыма, ніколі не былі ў гомельскіх мясцінах, змогуць адчуць энергію, цнатлівую чысціню радзімы аўтара.

## МУЗЕЙ ТЭАТРАЛЬНАЙ І МУЗЫЧНАЙ КУЛЬТУРЫ

5 **Што:** «У храме мастацтва» выстаўка Аксаны Аракчэевай. Аснову экспазіцыі складаюць партрэты вядомых айчынных дзеячаў культуры і мастацтва. Сярод знакамітых асоб — музыка Валерый Дайнека, пісьменнік Генадзь Бураўкін, танцорка Вольга Апостал, вядучы радыёканала «Культура» Уладзімір Трапянок, дырэктар дырэкцыі праграм тэлеканала «СТБ» Любоў Цітарэнка, кіраўнік тэатра танца «Прэм'ер спонайд» Вераніка Навіцкая і іншыя.

**Дзеля чаго?** Герояў Аксана Аракчэева пераносіць з рэальнасці і назапашаных праблем у казачную прастору. Ёй важна, каб твор быў камфортным па ўспрыманні асабіста для яе і для чалавека, які прадстаўлены на ім. Ёсць у мастачкі пэўнае правіла: больш імкнуцца раскрыць чалавека знутры, каб у гледача фарміраваліся цікавасць не толькі да вонкавых з'яў, але і ўзнікала жаданне зразумець, што хаваецца за межамі прыгажосці асобы з карціны.

**Чаму ісці?** У Аксаны Аракчэевай бязмежная цікавасць да чалавека. Мастачка кажа, што твары — гэта неразгаданая таямніца, па якіх можна толькі здагадвацца пра лёс, унутраны свет чалавека. Аўтар ставіць сабе за мэту паказаць герояў адкрытымі, шчырымі. І ў выніку дасягае годных вынікаў. Пра гэта сведчаць водгукі яе герояў і меркаванні гледачоў.

Дарэчы, акрамя асабістай творчасці Аксана Аракчэева актыўна займаецца папулярызацыяй мастацкай спадчыны бацькі — заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Барыса Аракчэева. Сёлета яна арганізавала маштабны праект, прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння бацькі, падчас якога ўжо адбылося сем выставак, а наступныя пяць будуць прадстаўлены да канца года.



*«Адвечная прыгажосць». Партрэт балерыны Дар'і Саладуха, 2009 г.*

**Паласу падрыхтавалі Ларыса ЦІМОШЫК, Вікторыя АСКЕРА**

# ПЕРАВЯРНУЦЬ ГУЛЬНЮ

## Новы беларускі кінафестываль нарадзіўся з любові да мастацтва




**У свеце існуе 4450 кінафестываляў. З іх у Беларусі — 9. Але не ўсе лічаць, што такой колькасці для нашай краіны дастаткова, таму сёлета па ініцыятыве студыі «Змена» і фестывальнай дырэкцыі Беларускага саюза кінематаграфістаў з'явіўся І Міжнародны фестываль кароткаметражнага кіно «*Kinosmena*», створаны за некалькі месяцаў.**

### МЫ ТАКСАМА МОЖАМ

Фестываль будзе праходзіць у мінскіх кінатэатрах «*SilverScreen*» з 23 па 25 верасня: пакажуць лепшыя стужкі айчынных і замежных кінематаграфістаў. Вылучыць пераможцаў у дзвюх намінацыях («Лепшы міжнародны кароткаметражны фільм» і «Лепшы айчынны кароткаметражны фільм») журы дапамогуць гледачы. Менавіта такім спосабам лепшыя стужкі выбіраюць на адным з самых вядомых сусветных фестываляў кароткаметражнага кіно — Манхэтэнскім, але гэта не адзінае, што аб'ядноўвае яго з «*Kinosmena*». Дарэчы, на Манхэтэнскі кінафестываль у Мінску заўсёды прыходзіць шмат гледачоў, магчыма, такая ж цікавасць з боку публікі напаткае і беларусаў. Пра гэта кажа і прадзюсар фестывалю Павел Асмалоўскі: «Праграма нашага фестывалю крыху нагадвае Манхэтэнскі. І невыпадкова, бо і ў нас ёсць стужкі, якія трапілі і туды. Гэта здорава, бо фільмы там звычайна выдатныя, а Манхэтэнскі — лепшы фестываль кароткаметражак. Прыемна, што стужкі адтуль будуць і ў нас. Напрыклад, фільм французскага кінематаграфіста «Гарыла» пра Галівуд 60-х. Здавалася б, чаго яшчэ чакаць рэжысёру, чыя стужка трапіла на Манхэтэнскі фестываль? Але не, ён хвалюецца, піша нам і пытаецца, ці трапіў яго фільм у фінал нашага фестывалю».

Нягледзячы на тое, што «*Kinosmena*» — фестываль новы, пакуль невядомы, выбіраць лепшую стужку будуць знакамітыя кінематаграфісты: лаўрэат кінапрэмій «Ніка» і ММКФ, рэжысёр Дзмітрый Астрахан, расійскі сцэнарыст Алег Данілаў, старшыня Беларускага саюза кінематаграфістаў Віктар Васільеў, намеснік дырэктара тэлеканала «Беларусь 3» Сяргей Макарэй, кінааператар Віктар Бандаровіч і дырэктар фестывалю рэжысёр Ігар Асмалоўскі.

### ХВОРЫЯ НА КІНО

Ігар Асмалоўскі ўсё часцей задаецца пытаннем: «Навошта глядзець кіно?». Тых, хто можа гэта сабе дазволіць, для каго прагляд фільма — не згуба часу, сёння засталіся адзінкі. Тым не менш тых, хто кіно здымае, даволі шмат. Пра гэта сведчыць і факт, што на фестываль «*Kinosmena*» было даслана каля 1200 стужак з 91 краіны. І Ігар Асмалоўскі прагледзеў усе. З гэтай неверагоднай колькасці фільмаў у паўфінал прайшло толькі 60, а ў фінал — 36. Для лепшага фільма прадугледжаны прыз — 1000$. Канечне, гэта не сума для рэжысёра, але галоўнае зусім іншае: кіно будзе паказана, а грошы — прыемны бонус. Стужкі фіналістаў пакажуць і на нацыянальным тэлебачанні: у кожнага будзе магчымасць убачыць фільмы фестывалю на «Беларусь 2» і «Беларусь 3».

«Мы хочам дапамагчы маладым рэжысёрам: за перамогу аб'яўлена ўзнагарода, да таго ж у нас крыху іншы падыход да выбару работ. У Мінску не хапала якраз такога фестывалю, які паспрабуе набраць міжнародныя кароткаметражныя работы. Наш свет вялікі, рэжысёраў вельмі шмат, тэхналогіі развіваюцца. Раней кіно было больш недасяжным. А цяпер мы хочам, а галоўнае — можам, паказваць якасныя кінастужкі. Ды і хацелася ствараць канкурэнцыю: фестывалі ў Беларусі не спаборнічаюць адзін з адным. Але чым больш фестываляў, тым лепш для рэжысёраў», — адзначае Павел Асмалоўскі.



*Павел Дзеравянка ў стужцы «Усё ў скрыню».*

Ігар Асмалоўскі фестываль лічыць не проста магчымасцю для дапамогі кінавытворцам, але і гледачам, такім жа хворым на кіно, як і сам рэжысёр: «Канечне, у нас фестывалі ёсць, але і іншыя патрэбны для таго, для чаго патрэбна яшчэ адно кіно, яшчэ адна кніга, яшчэ адзін спектакль. Навошта? Каб распавесці па-новаму пра нешта».

Да ідэі стварэння кінафестывалю Павел ды Ігар Асмалоўскія прыйшлі дзякуючы сувязі апошняга з кіно: дасылалі стужкі рэжысёра на фестывалі, вывучылі гэтую кухню знутры, зразумелі неабходнасць свайго фестывалю. Ігар Асмалоўскі мяркуе, што фестываляў на



*Кадр з фільма «Гарыла».*

усю краіну ў Беларусі даволі мала: «Мы робім свой хаця б для таго, каб ствараць стымул для кінавытворцаў, каб кінематаграфісты бачылі стужкі такіх, як яны самі. Малабюджэтныя фільмы не толькі могуць, але і мусяць быць добрымі: кіно не залежыць ад бюджэту. Я лічу, калі ёсць жаданне здымачнай групы пра штосьці распавесці шчыра — тады і стужка атрымліваецца. Фон Трыер даўно яшчэ сказаў (пасля таго, як зняў «Тую, што танцуе ў цемры»): «Бярыце камеру і здымайце — і вы здымеце кіно». А ўсе межы, якія існуюць у кінематографе, нават у чымсьці дапамагаюць: рэжысёры шукаюць розныя шляхі, спрабуюць выкручвацца з цяжкага становішча».

### СТВАРАЦЬ — МОДНА І МАГЧЫМА

На «*Kinosmena*» з 1200 фільмаў — толькі 15 айчынных, але Ігар Асмалоўскі кажа, што беларускія стужкі будуць адзначаны: «Мы хварэем за айчынны кінематограф. Ды і трэба «падагрэць цікавасць» беларускіх кінематаграфістаў да кіно, да ўдзелу ў конкурсах».

У Беларусі толькі некалькі фестываляў фінансуецца за кошт дзяржаўнага бюджэту, астатнія — па прыватных ініцыятывах. Чаму гэта адбываецца? Сяргей Макарэй, намеснік дырэктара тэлеканала «Беларусь 3», кажа: «Шчыра і дакладна: у гэтай справе міністэрства не можа дапамагчы кожнаму. Але нягледзячы на тое, што ніхто нам не дапамагаў у арганізацыі, цікавасць да фестывалю каласальная. Зараз ідуць ролікі на тэлебачанні ў падтрымку «*Kinosmena*». Я разумею, што значыць для краіны гэтая падзея, таму гатовы дапамагчы. Калі любіш кіно, адданы гэтаму ўсім сэрцам, гатовы здымаць яго любымі спосабамі, будзеш шукаць на гэта грошы і знаходзіць».

Дарэчы, на стварэнні кінафестывалю арганізатары спыняцца не плануюць — хутка Асмалоўскія адкрыюць уласную кінашколу, распавядае Павел: «Мы хочам развіваць кінематограф не толькі з дапамогай фестывалю, але і кінашколы. Ужо ёсць выкладчыкі, сярод якіх і сябры Беларускага саюза кінематаграфістаў, міжнародныя майстры. Гэтая ідэя нарадзілася ў нас амаль адначасова з фестывалем».

### ІНШАЕ БАЧАННЕ

Некаторыя кажуць, што кароткаметражнае кіно — гэта несур'ёзна, але насамрэч менавіта з такіх стужак нараджаецца сапраўдны кінематограф — моцны і шчыры. Кароткаметражкі папулярныя, бо на поўнаметражныя фільмы ў людзей няма часу. Але за хвіліну перадаць думку — праца вельмі цяжкая. Трэба быць майстрам, адчуваць кіно. У кожнай хвіліне тут — гісторыя, тое, што баліць чалавеку, — вось што трэба ў кіно глядзець. Можа, у гэтым і сакрэт, можа, таму кароткаметражнае кіно цяпер моднае?

Павел Асмалоўскі кажа, што да Беларусі гэты трэнд толькі пачынае даходзіць: «У нас кароткаметражкі яшчэ не модныя. Пасля фестывалю мы, магчыма, меркаванне гледача наконт кіно зменім, бо любую ідэю можна данесці ў некалькіх імгненнях. І геніяльнасць фільма ў тым, каб расказаць гісторыю за хвіліну».

Ігар Асмалоўскі як практык кажа пра іншае — моднае, бо шмат здымаюць: «Кароткаметражкі можна лічыць своеасаблівай размінкай перад сур'ёзнай працай. Яе калі не прайсці, то, як у спорце, нічога не будзе. Але глядач часам не ставіцца да такога кіно як да размінкі — і гэта добра! Калі аўдыторыя ўспрымае гэта як сур'ёзную працу — трэніроўка атрымалася выдатнай».

Віктар Бандаровіч, кінааператар і член журы фестывалю, вельмі здзіўлены падзеяй: «Я нават не ўяўляў, што ў нас такое можа з'явіцца. Мы думалі, што гэта будзе конкурс студэнцкіх работ, а даслалі сапраўдныя шэдэўры». Стужкі абсалютна розныя, не падобныя адна да адной, вельмі ўзважаныя і асэнсаваныя. Хацелася б, каб іх убачыла як мага больш людзей.

Але невядома, ці ўсім кіно патрэбнае. Над гэтым меркаваннем задумаліся і Ігар Асмалоўскі, і Віктар Бандаровіч, і Сяргей Макарэй: «Ведаеце, грамадства — агульнае слова, гэта нішто. Грамадства складаецца з адзінак, вось гэтым асобам кіно, безумоўна, патрэбнае. Людзі галасуюць рублём і ідуць на кінапаказы. Чалавек, які думае, хоча выхавання, самаадукацыі, вырашыць, куды пайсці. Фестываль унікальны, і не пайсці на яго будзе сорамна, а з іншага боку, кіно — тая рэч, дзе чалавек не адпачывае. На праглядах трэба думаць. Калі ты выйшаў з кінатэатра і не задумаўся — згубіў час і грошы».

Ужо шмат гаварылі пра тое, што «*Kinosmena*» — фестываль унікальны. Але хутчэй ён проста іншы. І кіно тут іншае, адабранае па асаблівым крытэрыі, як адзначае Ігар Асмалоўскі: «Мы хочам паказаць пазітыўнае, светлае кіно, а не дэпрэсіўныя стужкі ці блокбастары. Калі людзі хочуць убачыць сапраўдную светлую думку — ім абавязкова трэба прыйсці. Я быў на фестывалі ў Дзюранга (побач з Галівудам), ён адбываўся амаль адначасова з Оскарам. І арганізатар, які выйшаў прывітаць гасцей, сказаў: "Хай там глядзяць свае стужкі, а мы будзем глядзець сапраўднае кіно — не такое пафаснае і глянцавае". І мы заклікаем глядзець фільмы, зробленыя без грошай у большасці выпадкаў, але з душой, людзьмі, якія хочуць штосьці сказаць і накіраваць нас у правільным кірунку. Я прайшоў каласальную школу, прагледзеўшы ўсе гэтыя работы».

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Вучыцца бачыць

Хутка ў Мінску распачнецца Міжнародны тэатральны форум тэатральнага мастацтва «ТЭАРТ». Але, нягледзячы на тое, што спектаклі паказваць яшчэ не пачалі, форум ужо актыўна працуе: «ТЭАРТ» «адкрыў» уласную школу, дзе можна ўдасканаліць веды пра тэатральнае мастацтва.

Пад хэштэгам «школатэарту» ўжо адбылося некалькі лекцый. Як глядзець класіку, якая яна, новая мова тэатра, як рэжысёры пераносяць тэатральныя пастаноўкі на гарадскія вуліцы, расказала выкладчык і крытык Алена Мальчэўская. Даследчыца сучаснага танца Святлана Уланоўская вылучыла танец як частку сучаснага арт-працэсу. Тэатральны крытык Людміла Грамыка распавяла пра беларускі тэатр у постсавецкі перыяд і сучаснае нацыянальнае тэатральнае майстэрства: што змянілася ў сцэнічным жыцці краіны за 25 гадоў і чаму тэатральнае грамадства руйнуецца. Таццяна Арцімовіч звязала сучасны тэатр з антычнасцю: слухачы даведаліся, ці памятаюць сёння Арыстоцеля.



«ТЭАРТ», такім чынам, не толькі дапамагае папулярызаваць тэатр, але і заклікае гледача цікавіцца яго гісторыяй і спецыфікай. Дырэктар фестывалю Анжаліка Крашэўская распавяла, што да апошняга моманту не была ўпэўнена, ці ўдалая задума арганізатараў зрабіць уласную школу з майстар-класамі і лекцыямі, але ў выніку школу «ТЭАРТу» ўсё ж стварылі. І нездарма: адукацыя сёння — не толькі самаразвіццё, удасканаленне, але і магчымасць зразумець незразумелае, пачуць інтэрпрэтацыі спектакляў, якія не можаш «прачытаць» сам.

«ТЭАРТ» даказвае, што вучыцца ніколі не позна, таму яшчэ ёсць магчымасць трапіць на лекцыі Алены Мальчэўскай «Дакумент у тэатральным мастацтве XX — пач. XXI ст.» і цыкл лекцый «Паверх бар'ераў» тэатразнаўцы з Санкт-Пецярбурга Дзмітрыя Рэнанскага, якімі і завершыцца адукацыйная праграма форуму тэатральнага мастацтва.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# У каго ключы ад кейса?

## Беларуская праграма «ТЭАРТу»: не разагрэць (публіку), а падагрэць (інтарэс)

Міжнародны тэатральны форум пачынаецца на наступным тыдні з праграмы *«Belarus Open»*. Беларускі шоукейс — гэта як скрынка, у якую склалі тое, што неабходна ўзяць у дарогу, каб быць мабільным і сучасным.

Тэатр — з'ява мабільная: бяруць удзел тэатры з розных рэгіёнаў Беларусі. І сучасная — паводле форм, у якіх ствараюцца сёння спектаклі. Іншая справа: далёка не ўсе пакуль адчулі, чым карысная такая прылада, як кейс (у дадзеным кантэксце — чым карысныя спектаклі, праз якія іх стваральнікі хочуць размаўляць з гледачом). Але ёсць у слова, якое вымаўляецца па-англійску як «кейс», яшчэ адзін сэнс: гэта ёмісты аповед пра сітуацыю, які дазваляе ацаніць стыль і хуткасць мыслення, уменне аддзяліць галоўнае ад другаснага, паўплываць на прынцыпе нестандартных рашэнняў. Методыка кейсаў выкарыстоўваецца ў мэтах навучання для тых, хто не хоча стаяць на месцы… Сучасны тэатр, які дазваляе паглядзець збоку на самыя складаныя сітуацыі, выконвае такую функцыю. Таму наш айчынны тэатр (яго ідэі, неардынарныя формы і эксперыменты) цікавы не менш за тое, што прапануе міжнародная праграма.

Беларуская праграма разнастайная, складаецца з трох частак: драматычны тэатр, тэатр лялек і аўтарскія (эксперыментальныя) праекты. З апошніх усё і пачнецца: 28 верасня беларускую праграму адкрые прэм'ера тэатральнага праекта, які аб'яднаў дзвюх асоб з неардынарным поглядам: артыстку і рэжысёра Святлану Бень і рэжысёра і драматурга Дзмітрыя Багаслаўскага. Да іх далучыўся Валерый Воранаў, які стварыў музыку, што стане часткай дзеі пад назвай «З жыцця насякомых». Зразумець Багаслаўскага як рэжысёра можна будзе таксама падчас прагляду спектакля «Саша, вынесі смецце» (паводле Наталлі Варажбіт) Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра.

З самых гучных тэатральных падзей апошняга часу немагчыма было абмінуць актуальную пастаноўку «Опіум», створаную рэжысёрам Аляксандрам Марчанкам пры фінансавай падтрымцы саміх гледачоў і арганізатарскай дапамозе Цэнтра візуальных і выканальніцкіх мастацтваў «АРТ Карпарэйшн» (ці не той самы хуткі погляд на сітуацыю, каб задумацца пра вырашэнне?).

З драматычных спектакляў увагу адборшчыкаў прыцягнуў Магілёўскі абласны драматычны тэатр: пастаноўка Саўлюса Варнаса «Крэйцарава саната» і спектакль «Час сэканд хэнд» паводле Святланы Алексіевіч (рэжысёр Уладзімір Пятровіч). І яшчэ адзін вечар з беларускай тэмай — «Дзяды» Міцкевіча гэтым разам ад Брэсцкага акадэмічнага тэатра драмы (сумесная беларуска-польская пастаноўка рэжысёра Паўла Пасіні).

Але па ўзроўні драматычнага напружання драматычнаму тэатру не саступае пастаноўка Ігара Казакова «На дне» ў Магілёўскім абласным тэатры лялек. Таксама кейс для маніторынгу: на ўменне аддзяляць галоўнае ад другаснага — пастаноўка з аўтарскім прачытаннем Горкага. Наогул, лялечныя тэатры ў сучасным айчынным творчым працэсе вылучаюцца канцэптуальным поглядам на рэчаіснасць. Гэта дазволіць адчуць спектакль «Фро» (паводле А. Платонава) Брэсцкага тэатра лялек у пастаноўцы расійскага рэжысёра Руслана Кудашова. Але ўсё ж, да гонару нашых лялечнікаў, яны таксама запатрабаваныя творцы ў нашых суседзяў, іх працы высока адзначаны. Напрыклад, Аляксей Ляляўскі, лаўрэат Расійскай нацыянальнай прэміі «Залатая маска». У рамках фестывалю «ТЭАРТ» можна паглядзець у яго пастаноўцы «Візіт старой дамы» (паводле Ф. Дзюрэнмата) у Гродзенскім абласным тэатры лялек, «Птушкі» (паводле Арыстафана) у Беларускім дзяржаўным тэатры лялек (свайго роду аўтарскі адукацыйны кейс пра тое, як і які соцыум будуюць людзі). Для чаго трэба глядзець нашы спектаклі: каб зразумець, дзе знаходзішся.

І тады спрабаваць перакуліць свет. Ці дацъ яму больш святла. «Беларусь 4:33. Горад сонца кропка нуль» ад Артура Клінава ўвасобілі ў адмысловым праекце Таццяна Арцімовіч і Антон Сарокін. Ёсць у нашай рэчаіснасці тэмы для «Прадметных размоў»: гэта перформанс Вольгі Сарокінай. Акрамя таго, беларускі шоукейс абяцае вечар перфомансу пад назвай *«PenAtra(C)ion-VII»*, у якім сыдуцца розныя творцы са сваім поглядам на свет, але з пункту гледжання беларускага мыслення. І, можа быць, менавіта яны ў спалучэнні дадуць ключ для разумення таго, што прывязуць тэатры з-за мяжы.

**Ларыса ЦІМОШЫК**

*выДАТна*

# Лэдзі Адданасць

## Народная артыстка Беларусі Людміла Корхава і яе тэатр

Акцёр пражывае нават не два, а некалькі жыццяў: сваё, уласнае і сваіх герояў. Калі ўласнае — вось яно, бы яблык на далоні, з усіх бакоў бачнае, — то сцэнічнае — надзвычай загадкавае, супярэчлівае. Сваё жыццё не сыграеш. Усё астатняе — гульня. Але такая, што глядач верыць у рэальнае існаванне тых людзей, якія жывуць перад ягонымі вачыма.

Народная артыстка Беларусі, вядучая актрыса Гомельскага абласнога драматычнага тэатра Людміла Корхава заўсёды навідавоку: шчыльна занята ў рэпертуары, актыўная ў грамадскім жыцці. Вось і нядаўна ездзіла ў родны Чачэрск, які адзначыў 857-годдзе: актрыса была сярод ганаровых гасцей свята…

Я даўно сачу за творчасцю Людмілы Канстанцінаўны. Сустрэліся мы і напярэдадні яе 70-годдзя (27 верасня). Свайго ўзросту яна не хавае. І як яго схаваеш, калі ты чалавек медыйны. Гаварылі пра многае.

…Брэст. Міжнародны фестываль «Белая вежа-97». Лепшыя творчыя сілы Беларусі, Балгарыі, Аўстрыі, Расіі, Літвы, Польшчы, Украіны… А Гран-пры ў намінацыі за лепшае выкананне жаночай ролі (Ірына Аркадзіна ў спектаклі «Чайка» па п'есе А. Чэхава, рэжысёр Рыд Таліпаў) атрымала Людміла Корхава. Тут прыгадваюцца словы рэжысёра спектакля: «Не буду ўтойваць: я прыехаў у Гомель дзеля актрысы Людмілы Корхавай. Я ўбачыў яе ў Мінску ў "Лэдзі Гамільтон", з таго часу гавару пра яе толькі добрыя словы і чакаў з нецярплівым пачатку нашай сумеснай працы». Р. Таліпаў не памыліўся. Л. Корхава спраўдзіла яго надзеі. А сама Людміла Канстанцінаўна пра той поспех у Брэсце ўспамінае так:

— Калі сказаць, што не думала пра Гран-пры, то скажу няпраўду. Ёсць, безумоўна ж, нейкія вышыні. Там, на тых вышынях, надзвычай светла, хораша, і чалавек, які дасягае іх, радуецца свайму шчасцю. Вось да іх і трэба імкнуцца… Спектакль прыняў не толькі глядач — упадабалі і члены журы на чале з народным артыстам СССР і БССР Мікалаем Яроменкам…

Спектакль «Лес» па п'есе А. Астроўскага паставіў у Гомелі Валерый Раеўскі. Ён убачыў Л. Корхаву ў ролі Гуржымскай, якая, як вядома, прагне кахаць і хоча быць каханай. Гуржымская ў Людмілы Корхавай перапоўнена сляпой і бяздумнай страсцю, таму, відавочна, яе не хвалюе больш нічога: ні тое, што робіцца вакол яе маёнтка і далей, ні ўзрост.

Крытык Уладзімір Мальцаў неяк справядліва заўважыў, што на гомельскай сцэне Л. Корхава досыць доўга іграла жанчын бальзакаўскага ўзросту, якія абудзіліся для кахання і дарэшты рэалізуюцца ў ім. Ды… амаль ніколі яна не мела на сцэне роўнага ёй сілай пачуццяў партнёра. Таму, напэўна, актрыса навучылася весці ўласную тэму практычна з любым партнёрам: то неяк прыстасоўваючыся, то ва ўяўленні прыўзнімаючы яго да сябе.



На пачатку васьмідзясятых у Гомельскім драмтэатры працаваў непрадказальны Мікола Трухан. Ён дамогся і паставіў на сцэне «Ладдзю роспачы» Уладзіміра Караткевіча. Інсцэніроўку рэжысёр зрабіў сам. Пасля прэм'еры вочы ў Трухана гарэлі нібыта ў шчаслівага дзіцяці. Спектакль атрымаўся, хоць многія яго не зразумелі, не прынялі. У тым ліку і калегі. Я пахваліў. А Мікола раптам: «Як Корхава? А-а, вось у чым справа. Дык яна і трымае ўвесь спектакль». У яе была роля Смерці. «Актрыса-а!» — выдыхнуў Мікола і паспяшаўся на сцэну...

Сорак дзевяць гадоў, адразу ж пасля заканчэння ў 1967 годзе Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, Людміла Канстанцінаўна на сцэне аднаго і таго ж калектыву. Дарэчы, цікавы факт: народнай артысткай Людміла Корхава стала ў адзін год з прысваеннем тэатру ганаровага звання «Заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь». Гэта быў 1999-ы. Цёпла гаворыць Людміла Корхава пра свае ранейшыя ролі. Дастаткова нагадаць, што яна была занята ў спектаклях, створаных па п'есах амаль усіх сусветна вядомых аўтараў, а таксама і па творах нашых слынных беларускіх драматургаў — Андрэя Макаёнка, Уладзіміра Караткевіча, Аляксея Дударава, Анатоля Дзялендзіка і Сяргея Кавалёва. Творы гэтых аўтараў ёй асабліва блізкія, бо яны пра тых людзей, сярод якіх Людміла Канстанцінаўна Корхава сама вырасла.

**Васіль ТКАЧОЎ**

# ФІЛАРМАНІЧНЫЯ ВЕЧАРЫ

**На сваёй струне**



**Ларыса СІМАКОВІЧ, кампазітар**

**У Белдзяржфілармоніі кожны вечар — музычны. Далікатная адметнасць. Пазбаўленая рызыкі паўтарыцца.**
**Канцэртнае жыццё з хуткаплыннай пераменлівасцю. Мяняюцца імёны, праграмы, падзеі. Мяняюцца эмоцыі, уражанні, захапленні. Вызначаюцца прыярытэты. Амплітуда спраўджаных і няспраўджаных спадзяванняў скарачаецца.**
**Кожны вечар у расчыненыя філарманічныя дзверы разам з гукамі горада, настроем надвор'я і рэшткамі пражытага дня ўваходзіць слухач. Гэты вечар ён прысвячае сабе. Калі гукі горада аддаляюцца, жырандолі запальваюцца, а залы запаўняюцца, над усім пачынае панаваць музыка.**

Канцэртнае жыццё мае сваю гісторыю. Яно пачалося з ідэі платных публічных канцэртаў у доме скрыпача Дж. Баністэра англійскай сталіцы 1670-х гадоў. Ідэя стала звычаем, звычай — неабходным рытуалам жыцця. Абанементныя канцэрты, узначаленыя Ёганам Крысціянам Бахам, праз стагоддзе вызначалі эстэтыку інтэлектуальнага жыцця Лондана.

Француз Ф. А. Філідор — кампазітар і шахматыст — заснаваў парыжскія *Concerts spirituels*. На гэтых «Духоўных канцэртах» гучалі новыя, толькі што створаныя кампазітарамі, інструментальныя опусы — падчас царкоўных свят, акурат калі тэатры былі зачынены.

Адметнасцю Лейпцыга 1743 года сталі так званыя «Вялікія канцэрты» — абанемент з 24 канцэртаў. Адметнасцю Гамбурга, Дрэздэна, Вены, Неапаля, Прагі — платныя публічныя канцэрты: там, дзе ёсць умовы і асяроддзе, магчымым становіцца развіццё буйных жанраў, кірункаў, школ — эвалюцыя мыслення і музычнай тэхнікі.

Восень распачынае сезон — *«музычны верасень нячутна плешча ў ладкі»* (Б. Ж.). На акадэмічных сцэнах еўрапейскага абшару гучыць самая розная музыка. Перавага — за Моцартам, Чайкоўскім, Пракоф'евым. Філарманічныя аншлагі забяспечаны з'яўленнем на афішы Рэквіема Моцарта, 5-й Сімфоніі Бетховена, ягонага ж «Эгманта», «Рамэа і Джульеты» Чайкоўскага, Пракоф'ева. Залы Беларускай дзяржаўнай філармоніі заўсёды перапоўненыя, калі гучаць Сімфанічныя танцы С. Рахманінава, «Карміна Бурана» К. Орфа, «Вясна свяшчэнная» І. Стравінскага. Шматаблічнае жыццё філарманічных музычных вечароў не пазбаўлена эксперыментаў з рэчаіснасцю. Урачыстае шэсце Восені, Зімы, Вясны, Лета абвяшчае непаўторнасць імгнення музычных вечароў.




*Белдзяржфілармонія ў прадчуванні новага сезона.*

***…харавыя вечары***

Музыка не лунае жывой птушкай у паветры і не асядае туманамі ў лагчынах. Але ж стваральнікам музыкі нейкім чынам атрымліваецца збіраць музыку з зорнага неба і зялёнай сенажаці.

Шматмернасць жыцця — кожны раз асабістае адкрыццё. Шматмернасць музычнай прасторы пачалі ствараць у XIV стагоддзі. Так з'явіўся матэт — самы папулярны жанр у парыжан. Усяго толькі трохгалосная песня. Але, узляцеўшы пад скляпенні Сабора Парыжскай Божай Маці, яна разгарнула пазы шматмернасці. Чуйнае вуха пачула. Голас агучыў. Дакладней — галасы. Адзін спявае набажэнскі тэкст на лаціне, другі — пра хуткаплыннасць жыцця, трэці — пра каханне. Стракатая аднытачасовая прысутнасць гумару, сатыры і эротыкі, імітацыя шматгалосіцы горада, інтанацыі вуліц і выгукі гандляроў на кірмашовых плошчах. Паміж спяваць матэты і слухаць іх выбіралі спяваць. Гарачыня эмоцый, напластаванне і канцэнтрацыя вірлівага жыцця на адзін квадратны міг, аднытачасовае існаванне «тут і паўсюль» у шматмернай прасторы — магчыма толькі ў матэце. Ці на… гандлёвай плошчы сярэднявечнага Парыжа.

Матэт на акадэмічнай сцэне — эстэтычная асалода. Тэмбральнае фізіялагічнае (часта лекавае!) уздзеянне. Гэта высокае майстэрства харавога гучання.

***…вечары арганныя***

Майстар музыкі любіць гульню. Любіць «жангліраваць» сваімі тэмамі, перакідваючы іх з кантэксту ў кантэкст. Майстар гуляе іх сэнсамі-значэннямі, перакотваючы з далоні ў далонь, набліжаючы-аддаляючы іх гучанне, размяшчаючы іх на верхнія ці ніжнія рэгістры. «Усё залежыць ад асвятлення». Безумоўна. Асвятлення вячэрняга, дзённага ці ранішняга. Адна і тая ж мелодыя па-рознаму гучыць пад сонечнымі промнямі і зорным небам.

Адну і тую ж тэму Бах — майстар гульні — мог выконваць па-іншаму кожны наступны вечар. Ды і вечар сам па сабе кожны раз іншы. І слухач інакшы. І тэмпература паветра. І асвятленне. І лісце за вокнамі: сёння пранізліва зялёнае, заўтра асляпляльна залатое. Дождж, мокры снег, завіруха вядуць свой сцэнар падзей, і тэмпература сюжэтных кульмінацый бязлітасна падпарадкоўвае сабе ўсё. І тут мы множымся…

***…шапэнаўскія, бахаўскія***

І тут мы множымся! Мы аднатачасова знаходзімся ў фа-мінорнай баладзе Шапэна і ў стылым надвор'і за акном з ліпкім снегам. Снег дзіўным чынам супадае з аўтографам пражытага дня і з фа-мінорам. Фа-мінор шапэнаўскай балады супадае з бегам пяра па нотных лінейках. Мы — у дыялогу. З Фрыдэрыкам Шапэнам.

Фа-мінор «Харальнай прэлюдыі» Баха — іншага насычэння фа-мінор! Іншая Галактыка. Колер. Касмічны абшар. Касмічнае адзінства і касмічная адзінота. Мост. Паміж табой і тым, з кім зараз Бах. Крышталёвы мост з крышталёвага фа-мінору. Снег у гэтым фа-міноры кожны раз па-іншаму асядае на зімовыя мінскія званы.

Класіка — паэзія часу. Спачувальны позірк аднадумцы, непазбыўна падоўжаны непагодлівымі стагоддзямі.

***…пракоф'еўскія***

«"Восеньскае" можа быць і вясной, і летам», — пісаў С. Пракоф'еў М. Мяскоўскаму, аспрэчваючы правы на сваё адчуванне музыкі — «…крытыкі пісалі пра дробны дождж, пажухлую лістоту, цытавалі вершы, але ні адзін не здагадаўся, што тут свет схаваны, а не вонкавы…»

Усе санаты С. Пракоф'ева з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння кампазітара ў 79-м філарманічным сезоне выканае вядомы беларускі піяніст Юрый Бліноў — лаўрэат міжнародных конкурсаў, пераможца І Міжнароднага конкурсу імя С. С. Пракоф'ева (Санкт-Пецярбург). Адважыцца на такі «марафон» здольны не кожны музыкант. Юрый Бліноў у Беларусі першы. «Ён паўсюль і заўсёды — удумлівы музыкант, і нідзе ягоныя музычныя канцэпцыі не абумоўлены ўказаннямі праграмнай ці фармальнай схемы». Гэта — Б. Асаф'еў пра С. Пракоф'ева… што так супадае з Юрыем Бліновым!

***…«страдзівар'еўскія»***

Струнны квартэт Беларускай дзяржаўнай філармоніі пачне сезон канцэртам у кастрычніку разам з запрошанай госцяй з Італіі — скрыпкай Страдзівары. На канцэрце прагучыць музыка А. Вівальдзі, У. Кур'яна, А. Барадзіна, Р. Шумана.

***…«танцавальныя»***

Трыа «Кансананс» адзначыць сваё 20-годдзе 4 снежня і збярэ пад дахам вечара танцавальную музыку краін свету. А «Пульчынэла» Д. Пергалезі ў праграме Трыа — гэта вясёлы і маскарадны неакласіцызм І. Стравінскага: «Я пачаў працаваць над манускрыптамі самога Пергалезі, быццам карэкціруючы ўласны стары твор». Цымбалы — захапленне Стравінскага. Іх гучанне — тэмбральная непаўторнасць у Рэгтайме і «Байцы пра лісу…», неабходнае злучэнне паміж струннымі і ўдарнымі інструментамі.

***…юбілейныя***

Ансамбль салістаў «Класік-авангард» запросіць на сваё 25-годдзе, а юбілей адзначыць заўсёды маладая «Купалінка».

***…фестывальныя***

Кульмінацыяй свайго канцэртнага сезона фартэпіянны дуэт Наталля Котава — Валерый Баравікоў лічаць сакавіцкі 2017 года Міжнародны фестываль «Duetissimo».

***…сімфанічныя***

Упершыню ў кастрычніцкім канцэрце Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі прагучыць «Настальгія» Д. Смольскага для вялікага сімфанічнага аркестра. У красавіку — прэм'ерны твор Г. Гарэлавай «Камерная музыка». Май — Людвіг ван Бетховен — «Урачыстая меса». Зусім хутка — Сімфонія № 5 Д. Шастаковіча і Сімфонія № 7 В. Сільвестрава. Лістапад пазначыцца шэдэўрам — «Сімфанічнымі танцамі». С. Рахманінава. Снежань — падзея на Раство — Меса сі-мінор І. С. Баха.

***…скарынаўскія***

Работа над галоўным праектам 79-га сезона Дзяржаўнага камернага хору Беларусі распачалася сёння. Музычны спектакль з галоўным персанажам Францыскам Скарынам упрыгожыць Вялікую цэну Белдзяржфілармоніі восеньскім вераснем 2017 года. Сумяшчэнне розных «часавых перспектыў», жанраў, стракатага гучання гарадской культуры Полацка, Вільні, Кракава, Падуі, Прагі створаць адметнасць, у якой старажытная даўніна звяжа вузел з супярэчлівай сучаснасцю.

***…багдановічавы***

Максіму Багдановічу — 125. Дзявятага снежня 2016 года паэт будзе з намі. Ягоны дзень нараджэння на Вялікай сцэне Белдзяржфілармоніі Нацыянальны акадэмічны народны аркестр адзначыць новай версіяй оперы-прыпавесці Л. Сімаковіч «Апокрыф».

2017 год — год 130 годдзя Янкі Купалы — адзначыцца касмічнай малітвай паэта — рок-операй У. Мулявіна «Песня пра долю».

***Сусвет гучыць. І гучанне трансліруе музыка — адбітак касмічнай гармоніі. «Музыка — прарочае дасланне, якое змяшчае больш высокую форму жыцця чалавецтва» (А. Шонберг).***

***Музычныя філарманічныя вечары — месца, дзе цячэ асаблівы музычны час у асаблівым музычным асяроддзі, жывое поле інтанацый, якое пульсуе.***

***Музычныя вечары ў філармоніі — гэта пашырэнне магчымасцей музыкі ў звыклым і нязвыклым асяроддзі. Гэта каардынаты сучаснасці з пазнакай высокай інтэлектуальнай гульні і візуальнасці. Шукай шматмернасць. Адзінку вымярэння хвіліны, дня, імгнення. Шматмернасць вымкне тэму. Самую неабходную і надзённую. Тэма зрушыць, павядзе. Падпарадкаванне ёй дазволіць тураваць яе хвалістасці. Не бойся чуллівасці і даходлівасці. Тэма абрасце падгалоскамі, якімі зацярушыцца аголенасць.***

***…А недасяжнасць музыкі — гэта адчай ці шчасце?..***



*Вялікая зала чакае гледача.*


*«Райская яблыня», 2001 г.*

# Мастацтва інтанацыі
## ў пейзажах Ягора Батальёнка

…Адна з самых вядомых работ Ягора Батальёнка «Райская яблыня» дэманструе, як аўтар сумяшчае рамантычнае і нацыянальнае, як ён цікава падбірае колеры. Мастацтвазнаўцы кажуць, што Батальёнак у гэтай рабоце змог узнавіць вобраз краіны, змог адчуць яго з такой неверагоднай пяшчотнасцю, цеплынёй, якая зрэдку ўласціва мужчынам.

Аўтар належыць да пакалення творцаў, якія асэнсавалі сябе ў кантэксце нацыянальнай культуры, звярталюцца да родных вобразаў і традыцый. Мастацтва, якое кранае, абуджае пяшчотныя пачуцці і натхняе вобразамі, сімваламі. Менавіта так уздзейнічае на чалавека глыбока-рамантычная творчасць Ягора Батальёнка — мастака, чыё імя ведаюць не толькі ў айчынным мастацкай прасторы, але і за яе межамі. Сёлета майстар святкуе сямідзесяцігадовы юбілей. Гэта нагода, каб паглыбіцца ў яго творчасць і больш даведацца пра асобу творцы. Дарэчы, яго работы да 27 верасня яшчэ можна паспець убачыць у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь на персанальнай выстаўцы.

Ягор Батальёнак не любіць імгненнай працы. Для яго мастацтва — працэс асэнсавання, пранікнення ў цудоўныя з'явы наваколля. Ён ніколі не піша карціну з натуры, доўга выношвае ідэю. І, толькі калі да апошняй дэталі зможа ўявіць карціну, бярэ ў рукі пэндзаль. Такі падыход тлумачыць проста: спрабуе адчуць, злавіць імгненнае святло жыцця, якое так лёгка выслізгвае з-пад увагі. У дзяцінстве мастака не было ні ўрокаў малявання, ні тым больш настаўніка, але было галоўнае — моцная цяга да творчасці, якая ўсе перашкоды адцягнула на задні план. У выніку яго галоўным настаўнікам і натхненнем у мастацтве стала прырода.

Падчас навучання на мастацка-графічным факультэце Віцебскага педінстытута Ягор Батальёнак быў вучнем знакамітых беларускіх мастакоў — Фелікса Гумена ды Івана Сталярова, якія і заклалі ідэю, што свет прыроды — найвялікшая каштоўнасць, падарунак ад Бога. Гэта меркаванне мастак пранёс праз увесь творчы шлях. Ён карыстаўся падказкамі выкладчыкаў, але змог адтачыць індывідуальны мастацкі стыль. Напачатку спрабаваў у жанры партрэта, але не прыйшло адчування, што чапляе за душу. А вось пейзаж захапіць змог, і сёння работы мастака ў гэтым жанры вядомыя ў многіх краінах свету. Ён захоўвае на палотнах імгненні памяці, якімі захапляўся з дзяцінства, якія сталі імпульсам, накіраваннем у свет мастацтва.

Па словах Ягора Батальёнка, працаваць над карцінай ніколі не атрымліваецца проста. Кожная дэталь патрабуе вялікай увагі і далікатнага падыходу. Бывае, гадзінамі прадумвае, як правільна паказаць тое ж неба альбо як дабіцца задуманага колеру. Сем патоў сыходзіць. За гады творчасці ў Ягора Батальёнка сфарміравалася ўласная палітра колераў. Пераважаюць цёплыя адценні, якія надаюць твору асаблівы настрой спакою, гармоніі. Аўтар не любіць змрочныя сюжэты і заўсёды пазбягае сумных матываў.

Калісьці пісьменнік Янка Сіпакоў адзначыў, што ў работах Ягора Батальёнка — мудрасць жыцця. Немагчыма не згадзіцца: мудрасць заўважная ў тварах, у ружовых аблоках, у драўляных хатках… Дык гэта ж і ёсць мудрасць аўтара, якая неаднойчы зберагала яго, дапамагала выбраць правільны кірунак.

Мастацтвазнаўца Таццяна Маркавец-Гаранская называе палотны творцы мастацтвам інтанацыі, лічыць, што яны характарызуюцца асабістай музыкальнасцю, пачуццёвасцю. Так можна апісаць і асобу аўтара, яго адметнае ўспрыманне наваколля, любоў да чалавека і Бога, які стаў важным памочнікам на шляху галоўнай справы жыцця.

**Вікторыя АСКЕРА**


*«Акруга», 2002 г.*

## Культурны ракурс



Скульптуры ў гарадской прасторы неабавязкова павінны быць з класічных бронзы ці каменя. Адна з самых прывабных інсталяцый, што «пасялілася» ў Верхнім горадзе пасля фестывалю архітэктуры мінулага года, — чырвоны насарог. Скульптура сабраная са старой чыгуннай ванны, а гэта значыць другаснай сыравіны. Такое тварэнне маладых беларускіх дызайнераў асабліва падабаецца дзецям. Можна ўзлезці на скульптуру і сузіраць свет зверху, нібы ты, вялікі і моцны, імчышся на фантастычным «скакуне» насустрач прыгодам у цудоўную краіну — як Элі ў Ізумрудны горад.

Вулічныя інсталяцыі — гэта першы крок да стварэння сапраўднага парку скульптур. Ну, ці проста спроба наладзіць творчы дыялог з гараджанамі, зрабіць мастацтва больш даступным, "пагуляць" з укараненнем яго ў навакольнае асяроддзе. З якім бы настроем чалавек ні ішоў па вуліцы, такія рэчы заўсёды прыўносяць у думкі пазітыў. Гэта як мінімум яркая разнастайнасць у «кампаніі» стандартных аб'ектаў, што павінны ўпрыгожваць ландшафт, — лавак, калон ці кветнікаў. Шкада, што, напрыклад, чырвоныя парасоны ў парку Горкага доўга не прастаялі. Ці для такога роду мастацтва трэба спачатку зрабіць пэўны крок да павышэння агульнай культуры?..

**Тамара ГУЛЕНКА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Д. А. Чарняўская

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 22.09.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1646.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 3374

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686